


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

31 ЖНІЎНЯ 2001г. № 35/4119 КОШТ 130 РУБ.

## ЁСЦЬ ФЕРМЕРЫ НА БЕЛАРУСІ

***Змітрок МАРОЗАЎ:* "Сёння на вёсцы існуе безліч праблем і перашкод, якія стрымліваюць далейшае развіццё фермерскага руху. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, у розных рэгіёнах рэспублікі паспяхова працуюць сапраўдныя гаспадары, якія на справе даказваюць перспектыўнасць фермерства на Беларусі".**

**4**

## ПРАВАВАЯ ДЗЯРЖАВА. МАРЫ І РЭАЛЬНАСЦЬ

***Язэп ЮХО:* "Да гэтага часу наша гістарычная навука засноўвалася на летапісах XII—XIV стст., і на тым светапоглядзе, што мелі летапісцы суседніх краін, выхаваных на ідэалогіі візантыйскай або рымскай імперыі. Яны не ведалі нашай старажытнай гісторыі і ігнаравалі старажытную культуру, заснаваную на язычніцкай індаеўрапейскай ідэалогіі".**

**5, 12**

## "АЛЕ НЕ ПРАПАЛА СВЯТЛО..."

***Вершы Віктара ШНІПА***

**8**

## І СКАЗАНА БЫЛО...

***Апавяданне Васіля ГІГЕВІЧА***

**9, 14—15**





*Багоў сабе я выбраў сам —*
*Свабоду*
*І прыроду.*
*Каму я верыў і пісаў?*

*Бацькам,*
*Сябрам,*
*Народу.*

**Генадзь БУРАЎКІН**

*Матэрыялы, прысвечаныя вядомаму паэту, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Генадзю Бураўкіну чытайце на стар. 6—7.*

*Фота Ул. КРУКА*



# КОЛА ДЗЁН

***Практычна тыдзень застаўся да прэзідэнцкіх выбараў. І што? Сітуацыя сведчыць, што, хутчэй за ўсё, сенсацыі 9 верасня не адбудзецца. Усё застанецца гэтак, як ёсць. А што мяняць, дзеля чаго і навошта? Жывём мы ў самай стабільнай не толькі ў Еўропе, а ў цэлым свеце краіне, эканоміка якой дынамічна развіваецца, сацыяльная абароненасць людзей у якой год ад году павышаецца і г. д. Асабліва красамоўныя поспехі дасягнуты ў ліпені, у якім урад спрацаваў надзвычай выніхова, выканана даручэнне прэзідэнта аб павышэнні сярэдняга заробку па краіне да эквівалента 100 долараў. Цалкам ліквідавана запазычанасць па заработнай плаце. Выплачаны адпускныя настаўнікам. Няма праблем з пенсіямі і дапамогамі. Індэкс спажывецкіх цэн знізіўся са 104,8 працэнта ў студзені да 101,6 працэнта ў ліпені. А ў першыя тры тыдні жніўня інфляцыя склала ўсяго 0,8 працэнта. Курсавая сітуацыя таксама больш чым стабільная: 1 жніўня афіцыйны курс беларускага рубля ў адносінах да долара быў 1418 рублёў, у той час як па прагнозе ён павінен быў быць 1444 рублі. Гэта прызнае нібыта й апазіцыя. А як сведчыць руская прымаўка, ад дабра дабра не шукаюць.***

***Ды толькі чамусьці аніяк не выходзіць з галавы адна мудрая і павучальная народная казка. Тая, што пачынаецца вось гэтак: "— Што скажаш, галган? — Усё добра, паночку. — А па-добраму што? — Панскі сцізорык зламаўся..." Памятаеце працяг казачкі? Вядома ж, памятаеце. Не, нездарма адзін наш паэт настойліва раіў: "Чытайце казкі!"***

## ЗОЛАТА ТЫДНЯ

У Галоўным упраўленні Нацбанка па Мінску і Мінскай вобласці за мінулы тыдзень было куплена залатых мерных зліткаў агульнай вагой 1 кілаграм 300 грамаў. Куплена, дайце веры, насельніцтвам, гэта значыць — намі з вамі. Найбольшай папулярнасцю карысталіся зліткі вагою 1 і 50 грамаў. Самы вялікі злітак, які быў набыты, важыў 100 грамаў. Іх было прададзена ажно 6 штук. Зліткаў жа вагой 250, 500 і 1000 грамаў пакуль не купіў ніхто. Значыць, багаценькіх Бурацінаў у нас усё ж яшчэ малавата...

## РАДАСЦЬ ТЫДНЯ

У адной з газет на самым відным месцы першай паласы змешчана інфармацыя аб тым, што за сем месяцаў гэтага года гарэлкі ў Мінску прададзена на 6 працэнтаў менш, чым за такі ж час летась. Само сабою, радасны факт. Аднак жа — ці не заўчасна радавацца? Аніўто не паказвае на тое, што нашы людзі пачалі менш піць. Усё сведчыць якраз пра адваротнае, у тым ліку шматлікія газетныя публікацыі аб розных здарэннях і трагедыях на глебе п'янства. Сталі менш купляць гарэлкі? А ці ж таму, што сталі менш піць? А мо таму, што сталі больш купляць "чарніла"? Хутчэй за ўсё, акурат так, балазе "чарніла" ўдвая-ўтрая таннейшае за гарэлку...

## ГРАН-ПРЫ ТЫДНЯ

У Маскве закрыўся V Міжнародны аўтасалон. Вышэйшай узнагародай — Гран-пры — адзначаны двухвосевы сядзельны цягач мінскага сумеснага прадпрыемства "МАЗ-МАН". Усяго толькі адно ачко саступіў яму і новы цягач уласна Мінскага аўтазавода МАЗ-5440. Абодва грузавікі адпавядаюць экалагічным нормам стандарту Еўра-3, якія яшчэ толькі будуць уведзены ў Еўропе. Масква, вядома, не Парыж, і яе аўтасалон — не самы прэстыжны ў свеце, аднак жа ўсё адно ўзнагароды, атрыманыя там нашымі грузавікамі, усцешваюць нашу беларускую душу. Значыць, умеем? Значыць, можам рабіць прыстойныя рэчы нават у гэты нялёгкі час?..

## МІЛЬЯРД ТЫДНЯ

Мінск наведаў прэзідэнт ААТ "Нафтавая кампанія "Лукойл" В. Алекпераў. "Лукойл" працуе на рынку Беларусі амаль дзесяць гадоў і паспеў сябе добра зарэкамендаваць. Паводле слоў В. Алекперава, ягоная кампанія таксама задаволена супрацоўніцтвам і гатова выдзеліць на інвесціраванне нафтаперапрацоўчай галіны Беларусі да 1 мільярда долараў ЗША. Пасля гэтага застаецца толькі адно сказаць: дай Бог чутае бачыць!

## ПАДРУЧНІКІ ТЫДНЯ

27 жніўня ў Навукова-метадычным цэнтры навучальнай кнігі і сродкаў навучання адчынілася выстаўка "Падручнікі да новага навучальнага года". Адкрываючы яе, намеснік міністра адукацыі Г. Дылян адзначыў, што, нягледзячы на складаныя фінансавыя праблемы, выпушчаны 102 са 123 запланаваных падручнікаў і дапаможнікаў. Рэшта будзе выпушчана да канца гэтага тыдня, гэта значыць — да 1 верасня. Хай так і будзе, бо дзяцей крыўдзіць нельга.

## КАМП'ЮТЭР ТЫДНЯ

Пакуль што, на жаль, не сам камп'ютэр, а толькі паведамленне аб ім. А гаворка ідзе пра суперкамп'ютэр сумеснай расійска-беларускай вытворчасці "СКІФ", першая дэманстрацыя якога адбудзецца ў Мінску ў лістападзе ў рамках Тыдня інфармацыйных тэхналогій. Характарыстыкі яго такія: пікавая прадукцыйнасць — да 20 мільярдаў аперацый за секунду; колькасць працэсараў — 32; колькасць вылічальных вузлоў — 16; аператыўная памяць — 8 Гбайт; дыскавая памяць — 160 Гбайт. Унушальна? А ў параўнанні з суперкамп'ютэрамі ЗША ды Японіі? Кажаце, таксама ўнушальна? Ну-ну...

## АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

Карпарацыя "Джэнерал Мотарс" правяла прэзентацыю доследнага ўзору паліўнага элемента, які працуе на прыродным газе. Элемент нібыта вельмі перспектыўны і для забеспячэння электраэнергіяй жылых дамоў і невялікіх прадпрыемстваў, і для распрацоўкі сілавых установак для новых пакаленняў электрааўтамабіляў. Добра будзе, калі справа не скончыцца доследным узорам, бо запасы той жа нафты, скажам, не бязмежныя. Разведаных запасаў яе ў Расіі, напрыклад, хопіць усяго на 21 год...

## ВАЛУН ТЫДНЯ

Аб'яўлены помнікам прыроды рэспубліканскага значэння, узяты пад ахову і ўключаны ў турыстычны маршрут 30-метровы валун, што разлёгся ля вёскі Вялікія Пугачы Шчучынскага раёна. Напэўна, варта сказаць дзякуй усім, хто паруліўся пра гэта. Велізарныя валуны, пакінутыя нам калісь ледавікамі, даўно сталі адметнасцю Беларусі, увайшлі ў народныя паданні і легенды, апеты паэтамі і празаікамі. Яны сапраўды вартыя нашай увагі і,як ні дзіўна гэта гучыць, клопату...

ПАДЗЕЯ

# На гэты раз — Мсціслаў

*На доўгім шляху —*
*з Прыкарпацця, ці, можа,*
*з Дунаю*
*Да буйнага Нёмна, Сажа*
*ці Рубана-Дзвіны*
*Над племем славянскім*
*высокая слава*
*лунае*
*І свеціць ў імёнах — бо слаўныя*
*воі яны*

Гэтыя радкі Вольгі Іпатавай, напісаныя ёю спецыяльна да Дня беларускага пісьменства ў Мсціславе, стануць своеасаблівым лейтматывам свята, свята, якое прыжылося, якое палюбілася людзям. У Полацку, Тураве, Оршы, Навагрудку, Пінску, Заслаўі засталіся не толькі добрыя ўспаміны пра яркія відовішчы, пра сустрэчы са знакамітымі людзьмі, засталіся папрыгажэлыя вуліцы, адноўленыя помнікі і храмы.

І вось цяпер наступіла чарга Мсціслава. Гэты старажытны беларускі горад, які ў летапісах упамінаецца пад 1156 годам, упісаў нямала яркіх старонак у кнігу славы нашага народа. Мсціслаўскі полк удзельнічаў у Грунвальдскай бітве. У 16—17 стагоддзях горад меў Магдэбургскае права, гандляваў з гарадамі Вялікага Княства Літоўскага, Рускай дзяржавы і краін Заходняй Еўропы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай Мсціслаў знаходзіўся у складзе Магілёўскай губерні Расійскай імперыі.

Сапраўдную славу гораду прынёс Пётр Мсціславец, адзін з рускіх і беларускіх першадрукароў, гравёр. Удзельнічаў у заснаванні разам з Іванам Фёдаравым (па некаторых звестках, Хведаровічам) друкарні ў Маскве ў 1564 годзе. Там былі надрукаваны "Апостал", два выданні "Часоўніка" (1565 г.). Пад націскам рэакцыйных колаў і кансерватыўнага духавенства Я. Мсціславец і І. Фёдараў пакінулі Маскву і пераехалі ў Заблудава да гетмана Вялікага Княства Літоўскага Р. Хадкевіча, які памог заснаваць там друкарню і выдаць "Евангелле вучыцельнае" (1569 г.) і "Псалтыр з Часаслоўцам" (1570 г.). У 1569 годзе Мсціславец пераехаў у Вільню, заснаваў друкарню з дапамогаю Мамонічаў і выдаў "Часоўнік" (1574—1576 гг.), "Евангелле напрастольнае" (1575 г.), "Псалтыр" (1576 г.). Як сведчаць спецыялісты, выданні П. Мсціслаўца былі на высокім паліграфічным узроўні, мелі маляўнічы арнамент, гравюры. Матэрыялы яго друкарні выкарыстоўваліся ў Астрожскай, Дзерманскай і іншых украінскіх друкарнях 16-га стагоддзя і пачатку 17-га.

Менавіта Пётр Мсціславец стане адным з герояў свята. Будзе адкрыты помнік першадрукару. А на сцэне "ажывуць" яго славутыя папярэднікі — Рагнеда, Еўфрасіння Полацкая, Скарына, старажытны летапісец. І прызнаннем любові да землякоў прагучаць паэтычныя радкі ад імя П. Мсціслаўца:

*Паўсвета прайшоў,*
*але мілую помню*
*зямлю*

*Вось звівы ракі, гарадскія*
*вартоўныя вежы*
*Дзяўчына гаворкай крынічнай*
*мне кажа "люблю",*
*І скібачку маці ад цёплага*
*бохана рэжа.*

Свята сёлета праводзяць Дзяржаўны камітэт па друку, Міністэрства культуры, Магілёўскі аблвыканкам. Вось што сказаў напярэдадні падзеі старшыня Дзяржкамдруку М. Падгайны:

— Мсціслаў "прасіўся" на гэтую ролю даўно. Горад з багатай гісторыяй, вельмі прыгожы. На яго добраўпарадкаванне былі выдзелены сродкі з рэспубліканскага і абласнога бюджэту, мы запланавалі свае сродкі... Гэта стала ўжо добрай традыцыяй — праводзіць свята ў невялікіх гарадах Беларусі, на іх тады канцэнтруецца ўвага рэспубліканскага і абласнога кіраўніцтва, і нашы старажытныя гарады прыводзяцца ў прыстойны выгляд.

Што да самой праграмы, то з 9 раніцы да 11.40 у саборы Аляксандра Неўскага адбудуцца літургія і хрэсны ход з Непагаснай Лампадай з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподня. У 12 гадзін на Цэнтральнай плошчы пачнецца мастацка-гістарычнае прадстаўленне "Ад нашых дзён да часоў першаасветнікаў" і ўрачыстае адкрыццё свята.

З 12.30 да 13 — такі час вызначаны на цырымонію адкрыцця помніка Пятру Мсціслаўцу, а з 13-ці ў літаратурнай гасцёўні тут жа, на Цэнтральнай плошчы, выступіць больш як дваццаць беларускіх пісьменнікаў і іх замежных гасцей.

У праграме таксама — фестываль беларускай кнігі і прэсы, свята дзіцячай кнігі і прэсы "Скажы дзецям "так", кірмаш "Мсціслаўскі падворак", музычны спектакль аб жыцці Еўфрасінні Полацкай, гала-канцэрт майстроў мастацтва, святочны феерверк.

Што ж, у восьмы раз на зямлі Беларусі мы будзем мець магчымасць далучыцца да слынных старонак беларускага пісьменства. Гэтае свята дарагое і блізкае ўсім, хто аддадзены нацыянальнай культуры, роднаму слову. І хай над старажытным Мсціславам горда лунае нескароны дух беларускай духоўнасці, натхняючы на высокія і добрыя справы сучаснікаў!..

**Нічыпар ЧАРНЫШ**



# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Ушанаваць сваіх выдатных землякоў Канстанцыю Буйло, Пятра Бітэля, Хведара Чэрню сабраліся жнівеньскай нядзеляй жыхары мястэчка Вішнева, што на Валожыншчыне. Былі тут мясцовыя і прыезджыя літаратары, работнікі культуры, педагогі і вучні, старажылы мястэчка і проста жыхары гэтага прыгожага кутка Міншчыны.

Госці і жыхары наведалі могілкі і ўсклалі кветкі да помнікаў П. Бітэлю і К. Буйло, а затым у сельскім Доме культуры адбылася вечарына. Гучалі ўспаміны пра слынных землякоў, іх вершы ў выкананні вучняў мясцовай школы, песні, музыку да якіх напісаў мясцовы кампазітар, член Саюза кампазітараў Беларусі Уладзімір Гаркуша.

Цёплыя словы на адрас слаўных сыноў Бацькаўшчыны прамаўлялі і пісьменнікі, якія прыехалі з Мінска, — Алесь Пісьмянкоў, Навум Гальпяровіч, Віктар Праўдзін, а таксама паэтэса, загадчыца аддзела інфармацыі Валожынскага райвыканкама Валянціна Гіруць-Русакевіч.

●

Цікавы дыялог аб шляхах развіцця беларускай літаратуры, аб высокай духоўнасці, пошуку маральных ідэалаў адбыўся паміж выкладчыкамі беларускай мовы школ Пухавіцкага раёна і гасцямі — намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Навумам Гальпяровічам і пісьменнікам, галоўным рэдактарам газеты "Чырвоная змена" Алесем Карлюкевічам. Ён адбыўся ў праграме жнівеньскіх нарад настаўнікаў і выклікаў вялікую зацікаўленасць прысутных.

Пісьменнікі адказалі на шматлікія пытанні настаўнікаў, паставілі аўтографы на сваіх новых кнігах.

●

Сярод тых, хто прыме ўдзел у святкаванні Дня пісьменства ў Мсціславе — Вольга Іпатава, Раіса Баравікова, Анатоль Бутэвіч, Анатоль Вярцінскі, Леанід Дранько-Майсюк, Галіна Каржанеўская, Навум Гальпяровіч, Алесь Пісьмянкоў, Сяргей Давідовіч, Ала Канапелька, Алесь Пашкевіч, Ганад Чарказян і іншыя, усяго больш за дваццаць чалавек. У гэты ж дзень ва ўрачыстасцях у Шаркоўшчыне прыме ўдзел Віктар Праўдзін, у Друцку — Алесь Петрашкевіч, а Мікола Мятліцкі ад імя сакратарыята Саюза пісьменнікаў павіншуе з 50-годдзем драматурга Уладзіміра Сауліча на яго радзіме — у Глыбокім.

А напярэдадні, у дзень ведаў 1-га верасня, гасцямі мінскіх школьнікаў, студэнтаў і навучэнцаў стануць У. Арлоў, В. Аксак, А. Вярцінскі, А. Бадак, В. Вольскі, Г. Багданава, Н. Гальпяровіч, А. Скарынкін, В. Шніп, Л. Дранько-Майсюк, Э. Акулін, А. Сульянаў і іншыя.

Так што першыя дні верасня аказаліся вельмі насычаныя на творчыя сустрэчы з пісьменнікамі.

**Н. К.**

# Для шкаляроў і настаўнікаў

З 27 жніўня па 14 верасня ў сталічным Навукова-метадычным цэнтры вучэбнай кнігі і сродкаў навучання праходзіць выстава "Падручнікі да новага навучальнага года". На адкрыцці гэтай выставы з удзелам аўтараў падручнікаў, дырэктараў выдавецтваў і настаўнікаў намеснік міністра адукацыі Генадзь Дылян казаў пра значныя фінансавыя цяжкасці ў справе выпуску падручнікаў. Ён паведаміў, што на момант адкрыцця выставы, нягледзячы на цяжкія фінансавыя праблемы, ужо пабачылі свет 102 падручнікі і вучэбныя дапаможнікі з тых 123, што было запланавана выдаць у школах да першага дня заняткаў 1 верасня. Што да навукова-метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў, то сёлета іх выдадзена больш за 90 найменняў, але багата іх ляжыць на складах незапатрабаванымі, бо педагогі не асабліва хочуць іх набываць. Падчас выставы запланавана правядзенне прэзентацый шэрагу новых падручнікаў, сустрэч з пісьменнікамі, з рэдакцыяй і аўтарамі часопіса "Пачатковае навучанне: сям'я, дзіцячы сад, школа", а таксама з аўтарамі літаратурных дзіцячых чытанак.

**К. П.**

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

## "Чорны бог і іншыя вершы Янкі Сіпакова"

У Пасольстве Беларусі ў Індыі адбылася прэзентацыя кнігі паэзіі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Янкі Сіпакова на мове хіндзі. Пераклад кнігі "Чорны бог і іншыя вершы Я. Сіпакова" зрабіў Вар'ям Сінгх — вядомы індыйскі паэт, прафесар Універсітэта імя Джавахарлала Нэру. У прэзентацыі прынялі ўдзел надзвычайны і Паўнамоцны Пасол нашай краіны ў Індыі Уладзімір Сакалоўскі, перакладчык Вар'ям Сінгх, старшыня Індыйскага савета па культурных сувязях Х. Сом, вядомыя мастацтвазнаўцы, літаратары і крытыкі, прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, члены парламента. І ўвесь вечар гучала паэзія Янкі Сіпакова.

ІМПРЭЗЫ

## Рыцар у ролі князя

Князь Ігар — адна з лепшых роляў яго цяперашняга рэпертуару. Даводзілася яму пераўвасабляцца і ў іншага князя — Андрэя Балконскага. А яшчэ — у графаў, маркізаў, сялян, вояроў, у трагедыйныя постаці, у камедыйных персанажаў, якімі багаты оперны свет. У гонар гэтага шматаблічнага Рыцара оперы, народнага артыста СССР Аркадзя Саўчанкі, які не так даўно справіў сваё 65-годдзе, рыхтуецца першы ў новым сезоне паказ спектакля "Князь Ігар".

Мае адбыцца не толькі бенефіс нашага выдатнага саліста, але і свята шматлікіх чыннікаў ды сяброў мастацтва. Таму што спектаклем "Князь Ігар" Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі адкрывае свой чарговы сезон. Сустрэча з яскравай музыкай А. Барадзіна, з мастацтвам спеваў, відачынства і сцэнаграфіі адбудзецца 6 верасня.

**С. Б.**

*На здымках: сцэны з оперы "Князь Ігар".*
*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*





АНОНС

## Выбірайце... "Юпіцер"!

Нават выпадковыя людзі з натоўпу не-не дый заўважаюць буйныя літары на рэкламным стэндзе, што побач са сталічнай філармоніяй: "ЮПІЦЕР". Музыкантам тлумачыць не трэба, што гэтак называецца адна з найбольш вядомых сімфоній В. А. Моцарта, напоўненая жыццядайным сонечным святлом і радасцю — сорак першая.

Твор гэты прагучыць у праграме канцэрта, якім акурат праз тыдзень, сёмага верасня, адкрые свой чарговы сезон Беларуская дзяржаўная філармонія. За пультам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра — яго новы мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Аляксандр Анісімаў, які па-ранейшаму ўзначальвае і аркестр нашага Нацыянальнага Вялікага тэатра.

"Юпіцер", безумоўна, — дамінанта першага ў новым сезоне сімфанічнага вечара. Апроч таго, на афішы пазначаны Канцэрт для дзвюх труб Г. Гарэлавай (з удзелам салістаў Я. Лятэ ды Д. Трафімовіча) і "Класічная сімфонія" С. Пракоф'ева.

У Зале камернай музыкі неўзабаве плануецца арганныя ды харавыя канцэрты. А на галоўнай філарманічнай сцэне краіны рыхтуецца паказ праграмы Дзяржаўнага фальклорна-харэаграфічнага ансамбля "Харошкі" (19 верасня), прэм'еры монаоперы А. Залётнева "Адзінокі птах" (27 і 28 верасня), урачыстае адкрыццё чарговага фестывалю праваслаўных песняспеваў (30 верасня).

**Я. КАРЛІМА**

ДАТЫ

## Глушакоў: музычнае прозвішча!

Зрэдчас яго непаўторны лірычны тэнар, які не зблытаеш ні з чым іншым, гучыць у радыёэфіры. З канцэртамі ён даўно ўжо не выступае, оперную сцэну пакінуў больш як два дзесяткі гадоў таму. Між тым, з 1956 па 1978 г. быў яе сапраўднай зоркай, а перад пачаткам свайго адданага служэння Нацыянальнаму акадэмічнаму тэатру оперы Беларусі два гады працаваў салістам сталічнай філармоніі, прадаўжаючы навучанне ў кансерваторыі, у класе знанага педагога-вакаліста Я. Віцінга.

Грунтоўная прафесійная школа плюс прыродная даравітасць, плюс працавітасць...Не мінула і васьмі гадоў, як прыйшоў Валерый Глушакоў у тэатр, а ўжо быў ганараваны званнем народнага артыста Беларусі. Па тым часе, у сярэдзіне 60-х, — адзнака сапраўды высокая.

Людзі сярэдняга веку яшчэ памятаюць, які выразны, знакавы вобраз Звездачота стварыў Валерый Глушакоў у надзённа-сатырычным, гратэскава вострым спектаклі "Залаты пеўнік" (оперу М. Рымскага-Корсакава паводле пушкінскай казкі ставіў рэжысёр С. Штэйн у творчым тандэме з майстрам сцэнаграфіі Я. Чамадуравым). А колькі "памятае" тэатральная гісторыя! Валерый Глушакоў — у операх Ю. Семяпякі, А. Туранкова, Я. Цікоцкага, А. Барадзіна, Ш. Гуно, Ж. Бізэ, Д. Вердзі, Ж. Маснэ...

Аднак прозвішча "Глушакоў" гучыць не толькі як адметны голас мінулай гісторыі музычна-сцэнічнага мастацтва Беларусі. Валерыя Ігнатавіча можна ў нейкім сэнсе лічыць пачынальнікам дынастыі музыкантаў. Сын Ігар — вядомы педагог, музыказнаўца, калі-нікалі піша і ў "ЛіМ". Яшчэ адзін сын — знаны хармайстар, і, можна сказаць, выпеставаная ім, Уладзімірам Глушаковым, Капэла хлопчыкаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі сёння вядомая ўжо далёка за межамі роднай краіны. Нездарма гэты калектыў улучаны ў лік стыпендыятаў Спецыяльнага прэзідэнцкага фонду "Таленты Беларусі".

Словам, прозвішча, якое гучыць годна! І згадаць пра гэта прыемна менавіта сёння, напярэдадні юбілейнай даты: 1 верасня народнаму артысту Беларусі Валерыю Глушакову спаўняецца 75.

**С. Б.**

*На здымку: Валерый ГЛУШАКОЎ (падчас яго адміністрацыйнай працы ў тэатры) удакладняе з артыстамі расклад оперных рэпетыцый. 1986 г.*
*Фота А. КАЛЯДЫ*



АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

### Вандроўкі па роднай зямлі

Пісьменнік Васіль Ткачоў і мастак Генадзь Говар — аўтары дзвюх кніжак вершаў, у апошні час шмат вандруюць па роднай Гомельшчыне: цікавяцца рэліктавымі дрэвамі, аглядаюць крыніцы, рэчкі, помнікі, даследуюць іх лёс, сустракаюцца з людзьмі. Сваімі ўражаннямі ад убачанага вандроўнікі падзяліліся нядаўна з жыхарамі Лельчыц і Жыткавіч. Сустрэчы гэтыя арганізаваў абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя сумесна з раённымі бібліятэкамі. Васіль Ткачоў і Генадзь Говар чыталі свае літаратурныя творы, якія вучаць ашчадна ставіцца да роднай прыроды, дбаць пра заўтрашні дзень.

Аналагічныя сустрэчы пройдуць і ў іншых райцэнтрах вобласці. А вынікам вандровак пісьменніка і мастака стане кніга аб прыродных скарбах роднай Гомельшчыны. Работа над кнігай ужо ідзе.

### На Рагачоўшчыне чытаюць Макаёнка

Гэтымі днямі ў вёсках Шчыбрын і Зарэчча, што на Рагачоўшчыне, адкрыліся новыя Дамы культуры з цудоўнымі бібліятэкамі. Сярод кніг тут значнае месца займаюць творы беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку земляка. Папоўніць бібліятэчныя фонды дапамагла раённая адміністрацыя.

### Каб радаваў інтэр'ер

У карцінную галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў група гомельскіх майстроў — У. Андрыянаў, М. Забіран, А. Каханевіч, М. Фей і іншыя — арганізавала выставу "Мастацкі выгляд інтэр'ера". На ёй прадстаўлены работы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія прызначаны для афармлення ўстаноў культуры, школ, для аздаблення кватэр.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

### Хрысціянству прысвячаецца

У Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі супрацоўнікі Гродзенскага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі адкрылі новую выставу. Экспазіцыя называецца "Свет сакральнага мастацтва". Яна пераконвае, што царкоўнае мастацтва мае багатую гісторыю, глыбокія карані і з'яўляецца важнай часткай беларускай культуры. Унікальная выстава прысвечана надыходу трэцяга тысячагоддзя хрысціянства. На ёй прадстаўлены як айчынныя, так і заходнееўрапейскія экспанаты: абразы, манументальная і дробная пластыка, літургічныя тканіны і габелены, кнігі, гравюры...

### Падзяка міністра

Нядаўна самадзейныя артысты Гродзеншчыны вярнуліся з абласнога цэнтра ў самым цудоўным настроі. Яшчэ б! Ім было даручана выступіць з урачыстым канцэртам перад дэпутатамі Парламенцкага сходу Беларусі і Расіі. Гэтая культурная акцыя прайшла з вялікім поспехам.

Загадам міністра культуры Рэспублікі Беларусь Л.Гулякі сямі лепшым удзельнікам канцэрта аб'яўлены падзякі. Сярод іх — і Алена Аўдзейчык, кіраўнік мастацкай самадзейнасці ААТ "Дзятлаўскі сыраробчы завод".

### На сцэне — дзіцячы балет

Узорнаму дзіцячаму ансамблю танца з вёскі Абухава Гродзенскага раёна не раз апладзіравалі гледачы з Расіі, Літвы, Польшчы, Германіі, Турцыі. Дваццаць гадоў нязменным мастацкім кіраўніком калектыву з'яўляецца цудоўны харэограф і педагог, заслужаная дзеячка культуры Беларусі Надзея Урукіна. Самадзейныя артысты ўзяліся зараз за складаную пастаноўку — балет "Дзюймовачка". Музыку да яго напісала юны кампазітар Дзінара Мазітава з Ліды.

### Гаспадыня кніг

Жукоўшчынскай сельскай бібліятэкай загадвае Алена Кучынская. Гэта адна з папулярнейшых на Дзятлаўшчыне культурных устаноў. Тут больш за трыста чытачоў, а кнігавыдача за паўгоддзе перавысіла дзве тысячы асобнікаў. Усё тлумачыцца проста: Кучынская ўсе сілы скіроўвае на прапаганду выданняў пра гісторыю нашага народа, нацыянальную культуру, на выхаванне ашчадных адносін да прыроды, навакольнага асяроддзя. У Алены Вацлаваўны юбілей — працуе ў бібліятэцы вось ужо трыццаць пяць гадоў! З гэтай падзеяй Кучынскую віншавалі мясцовыя работнікі культуры.

**Іосіф ЗАЯЦ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

### "Валянціна" запрасілі ў Літву

Беларускі народны тэатр "Валянцін" (кіраўнік — рэжысёр, заслужаны работнік культуры Беларусі Валянцін Ермаловіч) атрымаў запрашэнне ў Літву. Ён будзе ўдзельнічаць у другім міжнародным фестывалі тэатральнага мастацтва "Кельмская сцэна". Магілёўскія тэатралы пакажуць трынаццатага верасня спектакль "Камедыя" па п'есе Уладзіміра Рудава. Дарэчы, летась гэтая пастаноўка, з якой "Валянцін" выступаў у горадзе Тракай, прынесла магіляўчанам бліскучую перамогу.

### Дзень пісьменства

Другога верасня цэнтрам рэспубліканскага святкавання Дня беларускага пісьменства стане, як вядома, адзін з самых старажытных гарадоў Магілёўшчыны і Беларусі — Мсціслаў. Зараз райцэнтр рыхтуецца да свята. Сюды прыедуць дэлегацыі не толькі з Беларусі, але і з Расіі, Украіны, Малдовы і дальняга замежжа. Урачыстасці другога верасня пачнуцца з закладкі Саду Малітваў ля сабора Аляксандра Неўскага.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*МІНШЧЫНА...*

### "Ліцьвіны" — юбіляры

Вядомаму фальклорнаму ансамблю аўтэнтычнай народнай музыкі "Ліцьвіны" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Берберава — дзесяць гадоў! Менавіта столькі часу музыкі збіраюць па Беларусі народныя спевы і мелодыі, інструменты і строі, выдаюць касеты і кампакт-дыскі, выступаюць з канцэртамі беларускага фальклору на радзіме і за яе межамі...

Пятага верасня ў Доме культуры трактарнага завода адбудзецца юбілейны канцэрт "Ліцьвінам" — 10", у якім прагучаць лепшыя творы ў выкананні знанага гурта. Пачатак канцэрта ў 19.00.

**Наш кар.**

## Спадчына вяртаецца

**Выданне унікальнай кнігі ажыццявіла Нацыянальная бібліятэка нашай рэспублікі. Ёю выпушчаны ў свет бібліяграфічны паказальнік "Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі". Завяршылася вялікая навуковая праца расійскіх, украінскіх і айчынных архівістаў па адшуканні пісьмовай спадчыны выдатнага прадстаўніка славяназнаўства памежжа XIX—XX стагоддзяў.**

**Ураджэнец Рэчыцы, гісторык, этнограф, эканаміст і літаратуразнаўца Доўнар-Запольскі яшчэ да рэвалюцыі стаў вядомым вучоным. Слава яго пачалася са студэнцкай парты Кіеўскага універсітэта: першая манаграфія "Нарыс гісторыі Крывіцкай і Дрыгавіцкай земляў" (1891 г.) выклікала жывы інтарэс у выкладчыкаў і сяброў. Пасля заканчэння універсітэта тэмай магістарскай дысертацыі навукоўца стала дзяржаўная гаспадарка пры Ягелонах (1901 г.), аднак найбольш важкімі для беларусаў сталіся яго працы "Асновы дзяржаўнасці Беларусі" (выйшла на шасці еўрапейскіх мовах у 1919 годзе) і "Гісторыя Беларусі". Рукапіс апошняй кнігі больш за 60 гадоў праляжаў у спецыяльных фондах былога партыйнага архіва.**

**Жыццёвая дарога выдатнага вучонага была нялёгкай. Напярэдадні рэвалюцыі ён, як і іншыя людзі яго стану і ведаў, актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці, чытаў лекцыі, спадзеючыся, што Расія пойдзе шляхам дэмакратычнага развіцця і дасць волю народам. Аднак бальшавіцкі пераварот паклаў канец самавызначэнню нацый. Неўзабаве бальшавікі здалі Беларусь немцам, і Доўнар-Запольскі апынуўся ў акупаваным Мінску. Яго веды і вопыт спатрэбіліся на пасадзе члена мінскай управы. Разам з назначаным урадам БНР камендантам горада Кастусём Езавітавым і іншымі патрыётамі ён займаўся вырашэннем шматлікіх пытанняў гараджан. У жніўні 1918 года, напрыклад, кантраляваў забеспячэнне горада паліvам. Пазней узначальваў гандлёвую палату ў Кіеве, удзельнічаў у дыпламатычных перагаворах з Украінай. Страціўшы ў грамадзянскую вайну абодвух сыноў і адкінуўшы думку аб эміграцыі, у 1920-м Доўнар-Запольскі пераязджае ў Харкаў, пазней працуе прарэктарам Бакінскага універсітэта, а ў 1925 годзе, з марай працаваць на Беларусь, пераязджае ў Мінск. Бальшавікі, аднак, знайшлі яго ненадзейным, ён пераехаў у Маскву, дзе праз дзевяць гадоў і памёр ад сардэчнага прыступу.**

**Яго "Гісторыю Беларусі" выдалі ўжо ў наш час, аднак вялікая навуковая спадчына вучонага яшчэ чакае сваіх даследчыкаў. Бібліяграфічны паказальнік дае для гэтага унікальную магчымасць, бо толькі яго старонкі змяшчаюць назвы прац Доўнар-Запольскага і пералік амаль усяго, што напісана аб ім.**

**Выданне ажыццёўлена дзякуючы падтрымцы Рэчыцкага гарадскога выканаўчага камітэта, арганізатарскім здольнасцям кіраўніка калектыву укладальнікаў В. Скалабана пры непасрэдным удзеле Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, Гомельскага дзяржуніверсітэта і НДІ дакументазнаўства і архіўнай справы, замежных інстытутаў.**

**Віктар ХУРСІК**

## "Беларускі гістарычны часопіс", № 4

**Значная частка матэрыялаў нумара прысвечана 80-годдзю Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Галоўны рэдактар "БГЧ" В. Кушнераў гутарыць з рэктарам БДУ А. Казуліным ("Беларускі дзяржаўны універсітэт у XXI стагоддзі"). Змешчаны таксама публікацыі "На шляху да стварэння універсітэта ў Беларусі" У. Ляхоўскага, "Беларускі дзяржаўны універсітэт: усё было ўпершыню..." А. Яноўскага і А. Зельскага, "Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы пры БДУ: станаўленне і перспектывы развіцця" Аляксандра Жука, "Гістарычны факультэт БДУ" С. Хозіна. З іншых матэрыялаў прадстаўлены: "Універсітэты Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі. Уладкаванне і кар'ера выпускнікоў" А. Жыцько, "Слова пра маю настаўніцу" Т. Панаскінай, "Культурная спадчына Вялікага Княства Літоўскага" А. Грыцкевіча і г. д.**

ВАРУНКІ

# Ёсць фермеры на Беларусі

Якой павінна быць асабістая падсобная гаспадарка? Якія перспектывы ў фермера?

У рэчышчы тых пераўтварэнняў і змен, часам далёка не лепшых, якія адбываюцца на вёсцы за апошнія гады, гэтыя пытанні набываюць усё больш выразнае гучанне. Яны хвалююць не толькі ўпраўленцаў, кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, але найперш за ўсё простых сельскіх працаўнікоў, чыімі нястомнымі рукамі на зямлі вырошчваецца ўсё тое, што неабходна кожнаму грамадзяніну краіны для годнага чалавечага існавання, а Беларусі гарантуе захаванне сваёй незалежнасці.

Можа, сапраўды прыспеў час адмовіцца ад дзяржаўнай формы ўласнасці і перайсці да прыватнай, бо як вядома — свая кашуля бліжэй да цела? Тым больш, што вопыт шэрагу краін свету яскрава дэманструе перавагі прыватніцкага гаспадарання на зямлі.

Аналізуючы ўсе "за" і "супраць" фермерства на Беларусі, адразу зазначу, што як форма вядзення сельскагаспадарчай вытворчасці яно знаходзіцца ў зародкавым стане.

Фермерству ў краіне — дзесяць гадоў. Аднак за гэты прамежак часу фермеры на вёсцы, як кажуць, не зрабілі надвор'я. Сёння каля 2600 фермерскіх гаспадарак апрацоўваюць адзін працэнт сельскагаспадарчых угоддзяў. Летась вытварылі 47,5 тысячы тон зерня, 69,2 тыс. т бульбы, 32 тыс. т гароднiны, 9 тыс. т цукровых буракоў. Неабходна пры гэтым зазначыць, што колькасць фермерскіх гаспадарак за апошнюю пяцігодку скарацілася з 2977 да 2536.

Сёння існуе шмат цяжкасцей і перашкод эканамічнага і маральна-псіхалагічнага характару, з якімі штодня сутыкаецца беларускі фермер. Усё гэта і робіць гэтую сферу дзейнасці, тактоўна кажучы, непрывабнай. "Спрыяюць" таму розныя бюракратычныя закавыкі падчас рэгістрацыі фермерскіх гаспадарак, адсутнасць эканамічных ільгот і гарантый, якія б дазвалялі маладому фермеру (не па ўзросце, а па стажы дзейнасці) упэўнена стаць на ногі ў першыя гады гаспадарання. Душыць уласніка "падатковая пятля", няма на вёсцы прадуманай сістэмы забеспячэння фермерскіх гаспадарак тэхнікай, угнаеннямі, насеннем, ды і самому фермеру часта не хапае эканамічных, аграномічных, заатэхнічных ведаў...

Словам, сёння на вёсцы існуе безліч праблем і перашкод, якія стрымліваюць далейшае развіццё фермерскага руху.

І ўсё ж, нягледзячы на гэта, у розных рэгіёнах рэспублікі паспяхова працуюць сапраўдныя гаспадары, якія на справе даказваюць перспектыўнасць фермерства на Беларусі.

Возьмем да прыкладу вопыт Ліліі Кудзевіч, якая ўзначальвае гаспадарку "Яськова" на Віцебшчыне.

Нехта ў свой час сказаў, што чалавекам рухае інтарэс. Ён меў рацыю. Бо і ў наш, такі неспакойны, няпэўны час да фермерства Л. Кудзевіч прывялі менавіта інтарэс да сельскай гаспадаркі і вясковай працы, нястрымнае жаданне адчуць сябе гаспадыняй на зямлі, дзе можна было б як мага паўней праявіць свае здольнасці.

Каб узяць у арэнду зямлю і набыць тэхніку, давялося прадаць гарадскую кватэру. Невялікі капітал склаўся ад гадоўлі авечак. На свaім хутары Кудзевічы зладкавалі добры дом, пілараму, падсобныя прыбудовы. Ёсць там сёння і чатыры сажалкі з рыбай. У хуткім часе будзе свая пасека. Увогуле фермерства Кудзевічы лічаць справай сямейнай, так бы мовіць, агульным бізнесам, які аб'ядноўвае усіх членаў сям'і.

Сёлетняй вясной Лідзія Яўгенаўна ўзяла ў арэнду калгас "40 год Кастрычніка", які зрабіўся банкрутам.

Ад былых "гаспадароў" у спадчыну Кудзевіч перайшло каля трох соцень кароў — капыты ды рогі, з сярэднесутачным надоем на ўзроўні добрай казы. Шкада, але частку рагуль давялося здаць на мяса. Астатнія пасля пераводу на пашу неяк акрыялі. Зараз гаспадарка надойвае штодня звыш дзвюх тон малака ад значна меншага пагалоўя. Наладжаны кантроль за якасцю, у выніку — ад звыклага негатунковага падняліся на ўзровень першага гатунку. Набылі свой малакавоз, а гэта — значная эканомія на арэндзе транспарту. Як мяркуе Кудзевіч, поспех у большасці сваёй залежыць ад галоўных спецыялістаў.

Усе пытанні ў жывёлагадоўлі паспяхова вырашае загадчык фермы і ветурач у адной асобе Сяргей Бычкоў. У многім дзякуючы яму гаспадарка плануе паставіць на адкорм высокапрадукцыйную пароду бычкоў "Шэрале", якіх набудзе восенню. Дарэчы, грашовыя сродкі для гэтага выдаткаваны з рэспубліканскага бюджэту. Гэткі ж ініцыятыўны і кампетэнтны спецыяліст — аграном Аляксей Сакалоў. Шмат намаганняў прыкладвае ён для паляпшэння спраў у гароднінаводстве, шчырые над паляпшэннем тэхналогій у раслінаводстве, дбае аб своечасовым забеспячэнні жывёлы якаснымі кармамі.

Яшчэ не закончылася жніво, а КФГ "Яськова" дазволіла сабе з першай выручкі ад продажу зерня купіць камбайн. У бягучых планах гаспадаркі набыццё 450 свіней — для атрымання "хуткіх" грошай для выплаты заробку працаўнікам.

Перспектывы ў гаспадаркі вялікія.

Галоўнае, што людзі літаральна на вачах змянілі свае адносіны да працы: няма ранейшай абыякавасці, гультайства, палепшылася працоўная дысцыпліна. Значна павялічыліся заробкі ў параўнанні з ранейшымі — калгаснымі.

Адначасова з вытворчымі пытаннямі кіраўніцтва фермерскай гаспадаркі ўвесь час трымае ў полі зроку вельмі шмат сацыяльных праблем. Ніводная просьба вяскоўцаў аб дапамозе не застаецца пакінутай без увагі.

Вясной дапамаглі пасеяць, летам — скасіць, зараз — зжаць хлебныя палоскі і пенсіянерам, і работнікам фермерскай гаспадаркі. Прычым кошт за паслугі — сімвалічны. Між іншым, у шэрагу суседзяў на палетках вяскоўцаў зерне абсыпаецца на дол у чаканні абяцанай дапамогі.

Словам, не забывае Кудзевіч пра людзей. Напрыклад, разам з ветэранамі вайны наведала брацкую магілу, а пасля ў сваім кабінеце арганізавала для іх урачыстае святкаванне Дня Перамогі. З клопатам аб моладзі адкрыла на цэнтральнай сядзібе, у Жабанцях, філіял цырульні, сталовую-кавярню, дзе можна не толькі смачна паесці, але і набыць па таннай цане прадукты харчавання, выдаткавала аўтобус для падвозу дзяцей у дзіцячы садок.

Лілія Яўгенаўна шчыра верыць: поспех справы ў розуме і працавітасці людзей, якія жывуць і працуюць побач. Яна грунтоўна стаіць на роднай зямлі, не тоячы сваіх памылак і поспехаў ад сяброў і зайздроснікаў, шчодра дзеліцца вопытам з тымі, хто гэтага жадае, добра бачыць і шчыра верыць: "Лепшае наперадзе!"

За такімі гаспадарамі — будучае не толькі фермерства на Беларусі, але і нашых дзяцей і ўнукаў.

**Зміцрок МАРОЗАЎ**

ТВОРЧАСЦЬ

# Шлях да родных вобразаў

Думаецца, гэта самае трапнае азначэнне творчага шляху мастака-жывапісца, сябра суполкі "Пагоня" Алеся Цыркунова. І пачаўся гэты шлях яшчэ са студэнцкіх гадоў, са знаёмства з Міколам Купавам. Самому ж Алесю Цыркунову згадваецца, з якім захапленнем працавалася над ілюстрацыямі да купалаўскіх твораў, калі ягоны чацвёрты курс прыпаў якраз на юбілейны год славутага паэта. Апантанасць, захопленасць — гэтая рыса характару зрабілася для А. Цыркунова ў далейшым галоўнай у творчасці. Калі ён захапіўся лёсам дзеячаў беларускай культуры, ён стварыў цэлую галерэю вобразаў выбітных асобаў. Тут і Ф. Скарына, і М.-К. Агінскі, і паўстанец А. Сокал-Кутылоўскі...

Алесь Цыркуноў не піша проста партрэтныя выявы, ён спрабуе шукаць неадназначныя вобразы, надаваць ім сімвалічнасць. Пластыкай формаў, кантрастнасцю колераў, фактурнасцю перадае мастак настраёвасць кожнаму свайму твору. Яго жывапісныя партрэты і тэматычныя кампазіцыі часцей за ўсё трывожныя і сумныя, як і падзеі беларускай гісторыі, да якіх мастак звяртаецца.





Шмат мастак малюе і краявідаў. Гэта і не дзіва, бо Алесь набыў сабе сялянскую хату ў жывапісных мясцінах. Там, на ростанях ля вёскі Чэхі, ён з заўсёднай сваёй зацятасцю ўзяўся паставіць з дапамогай мясцовых людзей дубовы крыж шасціметровай вышыні. Ляснік з вёскі Ясева знайшоў моцнае дрэва, мясцовы майстра дапамог выкаваць крыж, што меўся паказаць еднасць канфесій, паяднаць усіх людзей. На крыжы ёсць адзнакі і праваслаўнай і каталіцкай рэлігій, наверсе — выява голуба, сімвала святога духа, а ўнізе напісаны малітвы на ручніку — чырвоным па белым. Крыж адкрылі на Дзяды мінулага года святар мясцовай парафіі айцец Аркадзь і уніяцкі пробашч з Мінска айцец Казімір. Бабулькі, што прыйшлі на адкрыццё, радаваліся. Нарэшце вёску будуць абходзіць стараною "нячысцікі".

Цяпер Алесь Цыркуноў захапіўся новай ідэяй, знайшоўшы на мяжы Пастаўскага раёна магілу аднаго з паўстанцаў другой паловы XIX ст. ! не варта здзіўляцца гэтаму: такая апантанасць наталяе творчасць мастака Алеся Цыркунова.

**Н. Ш.**

*На здымках: мастак А. Цыркуноў; партрэт айца Чарняўскага; "У роспачы"*



МЕРКАВАННЕ

# Прававая дзяржава. Мары і рэальнасць

У беларускім свядомым грамадстве не спыняецца працэс вызначэння сутнасці і фармулявання нашай нацыянальнай ідэі. У працу ўключыліся палітолагі, філосафы, грамадскія і палітычныя дзеячы, культуролагі, літаратары, мовазнаўцы... Выказваюцца розныя погляды на гэту праблему. Адны лічаць, што аснову нацыянальнай ідэі складае эканоміка, другія — культура і, у першую чаргу, беларуская мова. Усё гэта правільна, бо без эканомікі, як і без культуры, не можа існаваць нацыянальная ідэя. Але трэба мець на ўвазе, што праявіцца ў поўнай сіле нацыянальная ідэя можа толькі ў суверэннай **нацыянальнай дзяржаве.**

Справа ў тым, што чалавек — істота палітычная і ўсе яго здольнасці могуць быць выяўлены толькі ў дзяржаве, а гэта значыць, што без дзяржаўнага ладу не можа быць разумнага дабрабыту для чалавека. Арыстоцель пісаў: "той, хто ў сілу свае прыроды, а не па выпадковых абставінах, жыве па-за дзяржаваю — або недаразвітая ў маральным сэнсе істота, або звышчалавек... А той, хто не здольны ўступаць у грамадскія зносіны... ужо не складае элемента дзяржавы, становячыся або жывёлай, або бажаством". Дзяржава і яе прававая сістэма ў ходзе гістарычнага працэсу перажыла шэраг розных этапаў. Даследаваннем гістарычных законаў утварэння і развіцця беларускай дзяржавы займаецца навука гісторыі дзяржавы і права Беларусі, якая як самастойная навуковая і вучэбная дысцыпліна склалася толькі ў другой палове XX стагоддзя.

Наша дзяржава развіваецца ў рэчышчы ўсеагульнага гістарычнага закона: **паступовага збліжэння з іншымі народамі пры захаванні сваёй незалежнасці і пашырэння правоў чалавека.**

Гісторыя дзяржавы і права Беларусі — арганічная частка агульнай гісторыі народа, яго культуры, гэта навука аб жыцці і дзейнасці людзей у грамадстве і дзяржаве. Яна дапамагае бачыць поспехі і памылкі ў грамадска-палітычным жыцці людзей, з асаблівай вастрынёй усведамляць свае месца ў шэрагу пакаленняў, разумна, на падставе назапашанага вопыту, накіроўваць свае дзеянні ў сучаснасці, яна дапамагае ясна зразумець ход гістарычных падзей, яго перспектывы і выпрацаваць свой цвёрды і разумны светапогляд. Гісторыя дзяржавы і права, як і кожная навука служыць інтарэсам людзей, іх дабрабыту. Гістарычны аналіз розных форм дзяржаўнасці і прававых сістэм дазваляе правільна ўсведамляць дзеючыя нормы права, крытычна іх ацэньваць і паступова ўдасканальваць.

Асабліва важнае значэнне гэта навука набывае ў наш час будавання і развіцця новай беларускай "дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавы", якая павінна забяспечваць дабрабыт народа.

Пры вывучэнні гісторыі дзяржавы і права ў першую чаргу неабходна дакладна вызначыць, што сабою ўяўляла дзяржава і права ў розныя часы і ў розных народаў. Якіх толькі не было ў гісторыі дзяржаў! І ставілі яны перад сабой самыя розныя мэты. Таму ў тэорыі прававой навукі ёсць шмат вызначэнняў, якія адлюстроўваюць дзяржаўныя асаблівасці. Разнастайнасць гэтую можна параўнаць з разнастайнасцю дамоў, што маюць рознае прызначэнне. Ёсць камунальныя кватэры, ёсць шыкоўныя катэджы, ёсць невялічкія хаткі, ёсць турэмныя пабудовы. І ва ўсіх жывуць людзі. Нешта падобнае і ў дзяржавах. Наша прававая навука зыходзіць з таго, што развіццё дзяржавы ідзе ад грубых форм да больш разумных і справядлівых. У розныя перыяды нашай гісторыі сутнасць дзяржавы акрэслівалася па-рознаму. Найбольш распаўсюджанымі пры камуністычнай уладзе былі такія: "Дзяржава — арганізацыя ўлады пануючага класа, якая мае прызначэнне аховы эканамічных і іншых грамадскіх адносін, адпаведных інтарэсам пануючага класа, і падаўлення супраціўлення варожых класаў"; "Дзяржава — палітычная арганізацыя эканамічна пануючага класа для падаўлення супраціўлення яго класавых праціўнікаў"; "Дзяржава — гэта машына для падтрымання панавання аднаго класа над другім." У новай Беларускай энцыклапедыі (у 18 тамах) дадзена наступнае вызначэнне: "Дзяржава, асноўны інстытут сістэмы грамадства, які з'яўляецца галоўным сродкам палітычнай улады, арганізоўвае, накіроўвае і кантралюе сумесную дзейнасць і ўзаемаадносіны людзей, сацыяльных суполак, слаёў, класаў і асацыяцый". Пры такім вызначэнні неабходна растлумачыць, што такое "інстытут", што такое "сістэма грамадства", як яны ставяцца да грамадзян, да тэрыторыі, і чаму "палітычная ўлада" мае права "арганізоўваць, накіроўваць і кантраляваць сучасную дзейнасць і ўзаемаадносіны людзей". Такое вызначэнне дзяржавы ігнаруе волю грамадзян і надзяляе "палітычную ўладу" неабмежаванымі правамі, тым самым вядзе да самаўладдзя.

Думаю, вызначэнне дэмакратычнай прававой дзяржавы павінна быць наступным: **"Дзяржава, — тэрытарыяльны, суверэнны саюз грамадзян, утвораны з мэтай абароны іх жыцця, свабоды і маёмасці. Яе дзейнасць рэгламентуецца прававымі нормамі і правіламі маральных паводзін, выпрацаваных многімі пакаленнямі народа, выкананне гэтых норм і правілаў забяспечваецца ўстановамі кіравання і выхавання"**. Пры такім вызначэнні дзяржавы яе асноўнымі элементамі з'яўляюцца людзі, іх жыццё, свабода і маёмасць, правы і абавязкі, культура; тэрыторыя, зямля, яе нетры, раслінныя і жывёльныя багацці; суверэнныя, самастойныя правы ўстаноў кіравання і выхавання".

Другім важным элементам гісторыі дзяржавы і права з'яўляецца дакладнае вызначэнне права. У Савецкім Саюзе асноўным было наступнае: "Права — сукупнасць правіл паводзін (норм), што выражаюць волю класа, устаноўленых або санкцыянаваных дзяржаўнаю ўладаю, захаванне якіх забяспечваецца дзяржаўным прымусам у мэтах замацавання і развіцця грамадскіх адносін, выгадных і пажаданых класу, які здзяйсняе дзяржаўнае кіраўніцтва грамадства". Такое паняцце "права" дае шырокае поле дзейнасці для самавольства таталітарнага рэжыму, але ж яно мае зусім іншую прыроду. Яшчэ Леў Талстой у 1909 г. так ахарактарызаваў царскае заканадаўства: "Правам у рэчаіснасці называецца для людзей, якія маюць уладу, дазваленне, якое даюць яны самі сабе, прымушаць людзей, над каторымі яны маюць уладу, рабіць тое, што ім, пануючым, выгадна, для падуладных жа правам называецца дазваленне рабіць усё тое, што ім незабаронена... Галоўная прычына разбэшчанасці людзей нашага хрысціянскага міра — гэта той жахлівы падман, які называецца "правам".

У народнай свядомасці "права" атаясамлівалася з "праўдай", са "справядлівасцю". Старажытныя зборнікі прававых нормаў называліся "праўдамі", — Руская праўда, Польская праўда, Салічаская праўда, Саксонская праўда... Другое патрабаванне, якому павінна адпавядаць права — справядлівасць. Без яе права — імітацыя, падробка, пра што сведчыць заканадаўства ўсіх таталітарных рэжымаў. Дарэчы, у старажытным Рыме ўсё правасуддзе называлася справядлівасцю. У цяперашні час наша міністэрства, якое займаецца судовымі ўстановамі, называецца Міністэрствам юстыцыі, або справядлівасці. Трэцім элементам права павінна быць яго маральнасць. Яна павінна адпавядаць высокім патрабаванням гуманнасці. Усё гэта вымагае больш дакладнага вызначэння "права", бо тое вызначэнне, якое дамінуе ў беларускай прававой навуцы, цяпер значна састарэла. Сучаснае вызначэнне пададзена ў "Юрыдычным энцыклапедычным слоўніку", дзе запісана: "Права, інстытут грамадскага жыцця, прызначаны для рэгулявання найбольш значных грамадскіх адносін, якія патрабуюць дзяржаўнай аховы". Але гэта вызначэнне не ўлічвае асноўных патрабаванняў".

Неабходна акрэсліць не тое, якім права было ў мінулым, а тое, якім яно павінна быць у сучаснасці і ў будучым. Больш правільным, на мой погляд, будзе наступнае вызначэнне: **"права — сукупнасць справядлівых, заснаваных на ісціне і маралі, агульнапрызнаных абавязковых норм, правіл паводзін людзей у грамадстве і дзяржаве, выкананне якіх забяспечваецца належным выхаваннем, а ў неабходных выпадках прымяненнем дзяржаўнага прымусу або пакарання за іх парушэнне"**.

Прыкладам такіх агульнапрызнаных норм, распрацаваных на аснове ісціны, маралі і справядлівасці можа служыць Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, прынятая Генеральнай Асамблеяй Аб'яднаных Нацый 10 снежня 1948 г.

Навука гісторыі дзяржавы і права Беларусі мае шэраг асаблівасцей. Да гэтага часу наша гістарычная навука засноўвалася на летапісах XII—XIV стст., і на тым светапоглядзе, што мелі летапісцы суседніх краін, выхаваных на ідэалогіі візантыйскай або рымскай імперыі. Яны не ведалі нашай старажытнай гісторыі і ігнаравалі старажытную культуру, заснаваную на язычніцкай індаеўрапейскай ідэалогіі. Карані беларускай гісторыі неабходна шукаць у арыяў. На думку С. Судніка, які даследаваў сувязі беларускай і арыйскай культур, беларускі народ да нашага часу данёс частку старажытнай арыйскай культуры, якая была надзвычай высокаразвітой. Пра высокую культуру індаеўрапейскіх народаў пісалі Гамкрэлідзе і Іваноў у кнізе "Индоевропейский язык и индоевропейцы", а таксама і іншыя аўтары.

Беларусы, якія ў старажытнасці называліся неўрамі, нарцамі, будзінамі, а пазней славянамі, крэвічамі, як частка індаеўрапейскіх народаў таксама мелі высокую старажытную культуру. Пры раскопках могільніка на рацэ Дняпро, паблізу вёскі Васільеўкі знайшлі чэрап мужчыны сталага ўзросту, у якім выявілі авальнакруглую адтуліну дыяметрам 16-18 міліметраў. Адтуліна з'явілася не ад смяротнай раны, а ў выніку аперацыі на чэрапе, зробленай старажытным "хірургам" у каменным веку. Пасля аперацыі "пацыент" жыў не менш чым паўгода. Гэтая аперацыя была выканана 10-12 тысяч гадоў назад.

Пра высокую матэрыяльную культуру нашых продкаў сведчыць землеробства — асноўны занятак людзей, якія жылі тры тысячы гадоў таму і валодалі майстэрствам пераўтвараць пустую зямлю ва ўрадлівую глебу. У той жа час яны апрацоўвалі камень і будавалі шахты па здабычы крэменю. Каля пасёлка Краснасельскі Ваўкавыскага раёна археолагі выявілі некалькі соцень шахт, побач з імі былі крэменеапрацоўчыя майстэрні. Пачынаючы з 7-6 стст. да нашай эры, ў нас сталі выраблядь з мясцовай балотнай руды жалезныя прылады працы і зброі.

Недалёка ад Полацка каля возераЯнова вучонымі быў выяўлены комплекс вялікіх камянёў, выкладзеных так, што яны ўтвараюць амаль правільную літару "П". Кожны бок меў аднолькавую даўжыню і складаў 15 метраў. Бакі былі арыентаваны на паўночны захад, дзе заходзіла сонца ў дзень летняга сонцастаяння, што дазваляе меркаваць пра старажытную астранамічную язычніцкую абсерваторыю, падобную да агульнавядомай абсерваторыі ў Стоўнхенджы (Англія). Пра высокі ўзровень астранамічных ведаў у арыяў і іх нашчадкаў беларусаў можна меркаваць па старажытных абрадах, якія захаваліся да нашых дзён.

Вядома, што славяне мелі сваё дакірылічнае пісьмо. Пра гэта сведчыць старажытная чэшская песня пра суд Лібушы, якая, седзячы на бацькоўскім столцы, загадала прынесці дошкі праўдадатныя. Пра старажытныя летапісы на дошках гаварылася ў публікацыях С. Ляснога (С. Парамонава) пра "Влесову книгу". Летапіс на дошках упамінаў і Т. Назобут. З грыфельнымі дошкамі ў торбачках хадзілі ў школу вучні першых класаў нашых школ у 20-я гады XX стагоддзя. Грыфельныя дошкі рабіліся па ўзорах старажытных дошак для пісьма, якія пакрываліся воскам.

Дзяржаўны і грамадскі лад нашых продкаў мала чым адрозніваўся ад больш вядомых суседзяў-скіфаў і германцаў. Старажытнагрэчаскі гісторык Герадот, калі пісаў пра вайну персідскага цара Дарыя са скіфамі ў 513 г. да н. э., некалькі старонак сваёй працы прысвяціў і нашым продкам: неўрам (нарцам) і будзінам (гудзінам). Пра неўраў Герадот пісаў, што звычаі ў іх скіфскія, а гэта значыць, што яны мелі такі самы дзяржаўны лад, як і скіфы.

На думку выбітнага славацкага гісторыка П. Шафарыка, прарадзімай славян з'яўлялася тэрыторыя сучаснай Беларусі і паўночнай Украіны. Ён пісаў: "Будзіны... народ вялікі і мнагалюдны, з вачамі, надзвычайна блакітнымі, а валасамі светла-русымі, з'яўляюцца старажытнымі ў сваёй зямлі... Будзіны займалі суседнія землі, менавіта па ўсёй імавернасці і сведчанні пазнейшых географаў, на паўночнаўсход ад вярхоўяў Днястра, сучасную Валынь і Беларусь. Тут жа, у суседстве неўраў, гевінаў і другіх невялікіх народаў, змяшчае іх і Пталаней, дабаўляючы, што рэчка Барысфен, г. зн. заходні прыток Дняпра, інакш Бярэзіна, выцякае з гары Будзінскай. Імя іх сустракаем каля вярхоўяў сучаснага Буга, таксама і на грэчаскай карце, складзенай вучоным Агафадэмонам, сучаснікам Пталамея і прыкладзенай да яе геаграфіі... Будзіны былі, уласна кажучы, адзіным народам з венедамі. Атрымліваецца, што ён быў адной, і прытым галоўнай галіною вялікага сербскага пакалення... Будзіны мелі сваю ўласную мову... А такая мова — гэта славянская мова".

Імя будзінаў або гудзінаў захавалася ў беларускай тапаніміцы да нашых дзён у выглядзе Гудзевічы, Гуды, Гадагай, Буда, Будавесць.

Пра старажытныя дзяржавы на нашай зямлі паведамляецца і ў Іакімаўскім летапісе, пераказаным В. Тацішчавым у "Истории Российской". У ёй запісана, што першы славянскі князь Славен пабудаваў Вялікі горад у тыя ж часы калі пачыналася і скіфская дзяржава. Пасля смерці князя Славена валодалі дзяржаваю "сынове его и внуки много сот лет". Потым княжыў князь Вандал і яго сын Уладзімір, затым княжылі яшчэ дзевяць пакаленняў князёў, імёны якіх засталіся невядомымі. Потым княжыў Бурывой і яго сын Гастамысл. Пасля смерці Гастамысла на княжанне быў запрошаны яго ўнук, сын дачкі Умілы, Рурык.

Уплывовай сілай старажытнай Беларусі былі язычніцкія жрацы — крэвы, якія актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім жыцці, згуртоўвалі народ. Гэта з'яўлялася неабходнай перадумовай утварэння адзінай народнасці. Яны ж удзельнічалі ў дзяржаўным кіраванні і разглядзе судовых спраў, надавалі належны накірунак агульным сходам, соймам, копам, былі настаўнікамі і выхавальнікамі маладых, захавальнікамі ведаў і даследчыкамі прыродных з'яў, прапаведвалі сваё веравучэнне, лячылі хворых, разам з князямі кіравалі ваеннымі паходамі, задавальнялі культавыя патрэбы насельніцтва. Вядома, што такія магутныя вайсковыя выправы, як акупацыя Балканскай паўвыспы і цэнтральнай Еўропы, маглі адбыцца толькі пры высокай арганізацыі і стараннай падрыхтоўцы. Ад язычніцкіх крэваў паходзіць і назва ўсяго народа крэвічы.

Беларускі народ атрымаў ад старажытнасці багатую дзяржаўна-прававую спадчыну ў выглядзе копнага права, копных судоў, соймавых сходаў насельніцтва. Копныя суды ў агульнай судовай сістэме феадальнай Беларусі былі архаічным перажыткам старажытнага дзяржаўнага ладу, але ў XVI-XVII стст. займалі вельмі важнае значэнне ў грамадстве. Суддзямі копнага суда былі простыя людзі — копныя мужы і копныя старцы. Гэта, як правіла, сяляне домаўласнікі, якія карысталіся аўтарытэтам і павагай сваіх суседзяў і адначасова маглі займаць пасады сельскіх і валасных адміністратараў. Копны суд быў скорым, даступным кожнаму, справядлівым і міласцівым. Копнае права было добра распрацаваным і адпавядала патрабаванням як тэорыі, так і практыкі падтрымання правапарадку ў грамадстве. Яно было асновай звычаёвага права, а пачынаючы з XVI ст. і асновай пісанага права. Дзякуючы яму былі распрацаваны і выдадзены такія выдатныя прававыя акты, як Полацкі, Віцебскі і Смаленскі абласныя прывілеі, агульназемскія прывілеі 1447, 1492 і 1506 гг., першыя канстытуцыйныя акты на Беларусі і самыя выдатныя ва ўсёй еўрапейскай прававой культуры статуты Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гг. Нават праз 200 гадоў пасля яго выдання, Статут 1588 г. лічыўся "самай дасканалай кніжкай законаў ва ўсёй Еўропе". Беларускае феадальнае права аказала плённы ўплыў на развіццё права суседніх народаў.

Усе прыведзеныя факты дазваляюць зрабіць наступныя высновы:

Беларускі народ за час свайго існавання ў розныя часы называўся рознымі імёнамі: будзінамі, нарцамі, крэвічамі, сарматамі, славянамі, ліцвінамі і іншымі. Рабіліся спробы яго называць палякамі або рускімі.

Беларускі народ з'яўляецца аўтахтонным і жыве на сваёй зямлі не менш як 3-4 тысячы гадоў.

Дзяржаўны лад у нашага народа склаўся задоўга да нашай эры, прыкладна ў той жа час, што і ў іншых індаеўрапейскіх народаў. У нас у старажытнасці існавалі такія ж гарады — дзяржавы, як і ў старажытнай Грэцыі, дзе былі дзяржавы — полісы. Пра вялікую колькасць гарадоў на нашай тэрыторыі сведчыў ананімны Баварскі географ IX ст. Ён пісаў, што ў жыхароў свірскай зямлі было 325 гарадоў, у туравічан — 104 гарады, у пружан — 70 гарадоў, у бужан — 231 горад, шмат гарадоў было ў жыцічаў, лукамлян і нараўлян.

У беларусаў, таксама як у старажытных грэкаў і яўрэяў, яшчэ да нашай эры, на аснове адзінства старажытнай культуры, мовы і рэлігіі, склалася адзіная народнасць, якую розныя гісторыкі і летапісцы называлі па-рознаму. Герадот — будзінамі і неўрамі, Пталамей — карваланамі (крэвічамі), рымскія гісторыкі — будзінамі і неўрамі, а потым скіфамі і сарматамі, пазней славянамі.

Пры даследаванні нашай гісторыі ўзнікае пытанне, што паслужыла прычынаю для высокаразвітога народа ў старажытнасці запозненага выхаду беларусаў на сучасную гістарычную арэну? Чаму наш народ набывае дзяржаўную самастойнасць толькі ў канцы XX і на пачатку XXI ст.? Пазней за ўсе славянскія народы. Прычыны, здаецца, вось у чым.

Па-першае, паслабленне нацыянальнай ідэі было выклікана катастрафічнай стратай элітнай часткі насельніцтва старажытнай і новай Беларусі, што адбывалася на працягу нашай гісторыі:

у IV-VI стст, калі з Беларусі сышла найбольш энергічная, ваяўнічая частка насельніцтва, што ўдзельнічала ў захопе Балканскага паўвострава і Цэнтральнай Еўропы (у выніку чаго былі ўтвораны новыя дзяржавы Сербія, Балгарыя і шэраг іншых). Вядома, што ў тых паходах удзельнічалі крэвічы, сербы, драговіты, люцічы (вільцы) і іншыя;

вялікая страта насельніцтва адбылася і падчас Лівонскай вайны (1558—1582), калі была спустошана ўсходняя Беларусь, асабліва Полацкая і Віцебская землі;

у XVII ст. ад хвароб і вайны са Швецыяй і Маскоўскай дзяржавай загінула больш за палавіну насельніцтва Беларусі;

пасля паўстанняў 1794, 1831, 1863 гг. найбольш энергічныя і выдатныя людзі нашай зямлі былі забітымі, або сасланымі, ці вымушаны былі падацца ў эміграцыю;

падчас першай сусветнай вайны і рэвалюцыі Беларусь страціла адзін мільён трыста семдзесят шэсць тыс. самых працаздольных, найбольш адукаваных і энергічных людзей;

падчас калектывізацыі сельскай гаспадаркі і тэрору 30-х гадоў былі знішчаны або памерлі ад голаду, ці сасланы з Беларусі "кулакі", "ворагі народа", "Нацыянальныя дэмакраты" і іншыя. Колькасць вынішчаных у той час на Беларусі людзей дакладна яшчэ не падлічана, але па меркаванні дэмографаў яна не менш за адзін мільён чалавек;

падчас другой сусветнай вайны, нямецкай акупацыі і сталінскіх рэпрэсій 40-50-х гадоў было знішчана больш за два з паловай мільёны чалавек...

Страты геннага фонду беларускай нацыі — катастрафічныя. Можна толькі здзіўляцца, як наш народ выжыў і захаваў сваю нацыянальную адметнасць.

Другой прычынай аслаблення беларускай нацыянальнай ідэі было сістэматычнае вынішчэнне язычніцкай, а потым і новай свецкай беларускай культуры.

Распаўсюджванне хрысціянства ў Грэцыі і Рыме адбывалася ў той час, калі хрысціяне былі зняважанымі і безабароннымі, таму яны не толькі не выступалі супраць старажытнай язычніцкай грэчаскай і рымскай культур, а наадварот стараліся прыстасаваць творы Арыстоцеля, Платона і іншых філосафаў да ўмацавання свае тэарэтычнае асновы. У старажытную Беларусь хрысціянская прапа-

(Працяг на стар. 12)

ПРОЗА

# І СКАЗАНА БЫЛО...

Васіль ГІГЕВІЧ



I

У пакої цёмна. Гэтак жа цёмна і за шклом, прыхаваным цяжкімі зялёнымі шторамі.

Рэзкім трэскатам будзільнік будзіць Яго.

Холадна. Батарэі не ўключаюць, эканомячы паліва, у настылай бетоннай дзевяціпавярхоўцы, пранізанай з верху да нізу ліфтамі, смецяправодамі, каналізацыйнымі і вентыляцыйнымі трубамі, гуляюць скразнякі, штовосень тут сапраўдная лядоўня, нават пад дзвюма коўдрамі стыне цела, усю ноч, падкурчыўшы ногі, Ён круціўся з боку на бок, каб сагрэцца, і толькі гадзін у шэсць цела размякла, і Ён нарэшце заснуў.

Звыклым рухам рукі націскаецца гузік дыстанцыйніка. У пакоі тут жа паяўляецца галава Вядучага. Вядучы кажа пра забойства бездапаможнай старой, у якой сын Зэк цыганіў апошнюю капейку, пра лямант Апазіцыі, пра апошняе выступленне Палітыка, — і знявечанае акрываўленае цела старой, і гарлапаністы мітынг Апазіцыі, і зашморгнутая на шыі тугім гальштукам, бы пятлёю, галава Палітыка — таксама ўрываюцца ў пакой на тыя імгненні, калі засцілаецца ложак, нацягваецца на стылае цела адзенне. Перад адыходам у ванну Ён зноўку націскае гузік дыстанцыйніка, — калі пабялелы ці то ад злосці ці то ад жаху Палітык кляне лярву Апазіцыю, якая смаўжом смокча сокі і клёкі, не дае спакою ні днём ні ноччу.

Роўна ў восем — ні хвіліны пазней — Ён павінен пакінуць прыстанішча, замкнуўшы за сабою абабітыя дэрмацінам металічныя дзверы, за якімі ад зладзюганаў хаваецца Шчасце, што збіраецца гадамі і дзесяцігоддзямі.

Такая ўжо планіда людская, што яны павінны збіраць і хаваць адно ад аднаго сваё Шчасце.

Світае. Кудзелістыя хмары нясуцца немаведама куды, чапляючыся за высоткі, яны слязяцца халоднымі кроплямі, сыры халодны вецер тут жа шпурляе іх на шэры асфальт, на голыя, без лістоты, кусты і клёны, на твары, на постаці, над якімі чарнеюць парасоны.

Восень. Глыбокая восень.

Ля пад'езда стаіць легкавік. Дыстанцыйнікам Ён выключае сігналізацыю — легкавік адзываецца звыклым яўканнем, — ключом адмыкае дзверцы легкавіка, садзіцца, заводзіць і прагравае рухавік. Вуркатлівая машына вывозіць Яго на вуліцу, — дзе міготкія святлафоры на скрыжаваннях, дзе гэткія ж легкавікі суцэльнымі плынямі, бы ручаіны трэскі, нясуць людзей да таго агромністага і бязмежнага, што ад нараджэння прылепліваецца да кожнага, і да Бамжа і да Палітыка, што змушае людзей гойсаць адно за адным па вуліцах і кабінетах, прытанцоўваць ля грымучых прамасленых станкоў і доўгіх-доўгіх канвеерных стужак, змушае сядзець за сталамі перад калькулятарамі, перад маніторамі і, варушачы вуснамі, — каб не памыліцца, — складваць ланцугі лічбаў, формул, рыхтаваць справаздачы, даведкі, што змушае Палітыка карміць і трымаць Прыкарытнікаў, ды і саміх Прыкарытнікаў без напаміну Палітыка змушае штрафаваць, ляпіць вымовы, лупцаваць ботамі і дубінкамі, а то і ў каталажкі садзіць усіх, хто надумае ўцякаць ці адлыньваць ад гэтага бязмежнага, што прылеплена да кожнага.

Легкавік падвозіць Яго да будынінь, у якой трэба правесці дзень.

Як толькі Ён сядае за рабочы стол, тэлефонным званком Малодшы Прыкарытнік выклікае на нараду. Апошні месяц Малодшы Прыкарытнік надта сярдзіты, ледзь не штодня ён праводзіць нарады, на іх то енчыць, то верашчыць на падначаленых — зрываецца графік уводу ў дзеянне Саманавучальнага Камп'ютэра.

— Ці петрыць хто з вас, што мы знаходзімся на краі бездані? — Малодшы Прыкарытнік пачынае нараду спакойным і трагічным голасам — гэткім голасам пачынаюць акцёры знакаміты маналог, у якім каторы год шукаюць адказ на тое наўгалоўнейшае, што чамусьці абавязкова трэба спазнаць чалавеку і без чаго, мабыць, і не варта паяўляцца ў свеце: **“Быць альбо не быць?”**

Цішыня ў кабінеце. Абвёўшы гіпнатычным позіркам падначаленых, Малодшы Прыкарытнік працягвае свой маналог, у якім даецца ясны адказ на ўсе гэтыя быць альбо не быць, якімі ўжо каторае дзесяцігоддзе тлумяцца галовы неразумных людзей:

— Аддзел збору інфармацыі даўнымдаўно сабраў звесткі пра гараджан: і тэлефонныя размовы, — шматзначны ківок пальцам на тэлефон, — і вулічныя плёткі, я ўжо не ўпамінаю пра службовыя і неслужбовыя перамовы — усё штодзённа збіраецца і перадаецца Аддзелу кадзіравання. Яны таксама сваю Работу зрабілі, на мінулым тыдні яны запусцілі ў дзеянне інфармацыйны чып, так што магу вас павіншаваць: уся інфармацыя пра кожнага з прысутных штохвілінна кадзіруецца, паступае і збіраецца для прыняцця пэўнага рашэння. А чым жа занятыя мы? Мы ніяк не можам запусціць у дзеянне чып кіравання. На нас усё замыкаецца. Без чыпа кіравання ніхто не зможа запусціць у дзеянне Саманавучальны Камп'ютэр, а без ягоных рэкамендацый паявіцца хаос, лішняе дубліраванне, немэтазгоднасць, да нуля ўпадзе прадукцыйнасць. Вы што думаеце, за гэта нас пагладзяць па галоўцы? Я не сплю начамі, а вы чым заклапочаны? У чым праблема праблем, пытаюся я ў вас?

Пабялелы Малодшы Прыкарытнік не можа супакоіцца. Цяпер ніхто не думае апраўдвацца, — людзі разумеюць, што ў лямантe Малодшага Прыкарытніка хаваецца жахоцце перад прысудам і адчытваю Старэйшага Прыкарытніка — усе паяднаны ланцугом служэння і паслушэнства, мо ў гэтым і ёсць найвышэйшы сэнс, адказ на ўсе гэтыя **быць альбо не быць**, а ўсё астатняе, што ў падручніках імкліва пішацца, што філосафы плявузгаюць, што па тэлевізары грыміць — луxта, лішніца, марная надзея пазбавіцца гэтага бязмежнага і безаблічнага, чаго ніхто, нават і Палітык, не можа пазбавіцца.

Нарада закончана. Знявечаныя пагрозамі людзі вяртаюцца да Рабочых сталоў і тут жа, спрачаючыся да хрыпаця з пастаўшчыкамі, лямантуюць у тэлефонныя трубкі, пільна ўзіраючыся ў маніторы камп'ютэраў распрацоўваюць навейшыя праграмы, з дапамогаю якіх можна змадэляваць найлепшы варыянт мікрасхемы чыпа, кантралююць ход лабараторных выпрабаванняў — паступова тое бязмежнае, чаму яны служаць, накідвае на людзей ліпкае павуцінне, у якім стамляецца, дранцвее цела, баліць галава, — як ні расціраі пальцамі скроні, як ні ўзбадзёрвай сябе кубачкам кавы...

Пад вечар Яно, насыціўшыся, адпускае людзей...

Разам з іншымі Ён падымаецца з крэсла, наводзіць парадак на Рабочым стале і выходзіць з будыніны.

Неба ўвачавідкі цямнее. Дзе-нідзе ліхтары загараюцца. Дождж перастаў, а калі — Ён і не бачыў. Вецер заціх. Пахаладала. Падмарожвае нанач, мабыць, вось-вось пойдзе першы снег — пасыпецца з цяжкіх цёмна-сініх гурбаў, што застылі, зачапіўшыся за плоскія дахі высотак.

Кароткі восеньскі дзень скончыўся — як і не было. Ён ідзе да легкавіка і думае, што сягоння, як і ўчора, як і пазаўчора, нічога ў жыцці не змянілася — халодная імклівая плынь Часу надта ўжо хутка цягне Яго немаведама куды, і тут нават азірнуцца не паспяваеш, не тое што задумацца пра лёс і сэнс, таму тыдні і месяцы сціскаюцца да бяздумных хвілін, — толькі незразумелы халадок калі-нікалі праціне неспакойнае цела.

Сядзячы ў настылым за дзень легкавіку, праграваючы рухавік, нечакана Ён бачыць пяцігадовага хлопчыка ў вясковай хаце. Маці знадворку прымкнула хату, пакінуўшы хлопчыка, каб ён не збег на вуліцу ды бяды не натварыў, сама ж падалася ў Бярозава на раздабыткі. За доўгі-доўгі дзень хлопчык стаміўся, колькі разоў у акно глядзеў, плакаў і клікаў працяжна маму, бо ведаў: калі маму паклічаш, то яна тут жа і паявіцца, хлеба прынясе, мо нават і цукру дробачак! Вось да халоднага шкла лобікам прыткнуўшыся, слёз салодкіх удосталь наглытаўшыся, хлопчык на двор глядзіць, дзе снег пайшоў. Сняжынкі падаюць на двор, на паветку, дзе пасечаныя бацькам дровы ляжаць, на страху хлява, дзе карова стаіць. Нехаця ў звонкай бясконцай цішыні сняжынкі лятуць і лятуць, кудлаценькія, вялікія, па лапцю, што Бронька носіць, і адчувае хлопчык, што ўсёна ўкола пранізана магутнай плынню Часу. Падхапіўшы яго з невядомасці, Час паволі нясе ў доўгім дні міма сонных сняжынак да маці, якая з клункаю за плячыма спяшае з Бярозава да бацькі, які вечарам, прапахлы кажухом і махоркаю, паявіцца ў хаце. І яшчэ далей нясе яго Час, дзе цёплае бялюткае сонца ў блакіце, дзе ручаіны пурбонаць усю вясеннюю ноч, калі цёплы туман злізвае снег з палёў, калі шпакі на шпакоўнях заліваюцца, напаўняючы душу салодкай радасцю. Час цёплы і салодкі, і калі пачынаеш думаць, што прынясе Час, то аж слёзы выступаюць і крыўда апякае: ну чаму ж, чаму ж Час гэтакі маруда?

Ні з таго ні з сяго дрыжаць пальцы рук, далонню Ён спрабуе сарваць гідкае павуцінне — праводзіць пальцамі па твары, па залысінах, ды — марная надзея, толькі хлопчыка спудзіў, прагнаў невядома куды.

Легкавік зноўку выносіць Яго ў тыя віткі, з якіх не вылузнуцца: знаёмы пад'езд з кодавым замком, металічныя дзверы, бліскучы паркет у калідоры, кухня, у якой ля электрапліты стаіць распаўнелая жанчына, а за сталом на табурэтцы месціцца дачка. Дачка торкае відэльцам у талерку, на якой чырванее нясмачная сасіска, прыгатаваная з генетычна падпраўленай соі — жонка любіць купляць у магазіне паўфабрыкаты, каб лішніцай не займацца, — і заадно пазірае ў падручнік, што ляжыць на каленях.

— У мяне заўтра кантрольная. Ты не падкажаш, як рашыць задачу? — дачка глядзіць у вочы.

Ён застывае ў дзвярах кухні, моўчкі глядзіць на дачку, да якой вось ужо каторы год Яна падлабуньваецца, бо ўсе гэтыя фізікі, хіміі, матэматыкі, біялогіі, заалогіі толькі дзеля таго і існуюць, каб зацугляць чалавека, і дапамагчы дачцэ Ён ніяк не зможа, бо і сам даўно зацугляны, мацней, чым Палітык Апазіцыяй, таму і буркае вінавата:

— Я ўсё забыў. Наўрад ці змагу рашыць твае задачы.

— От, я так і здагадвалася, што ты мне не памочнік. Які ты ўжо стары і адсталы, — чамусьці радасна ўсміхаецца дачка і, забыўшыся пра соевую сасіску, зноўку ўторкваецца вачыма ў падручнік — у тую лжывую надзею на Шчасце, якой цешыць сябе каторы год.

У яе ўжо сутуляцца плечы ад штодзённага шасцігадзіннага выседжвання за партаю, яна часцяком жаліцца, што баліць галава і слязяцца вочы пасля ўрокаў інфарматыкі, калі зырыцца на экран манітора.

Шкада, шкада дачкі...

Атупелы і высмактаны, Ён кладзецца ў ложак і праз пульт дыстанцыйніка ўключае тэлевізар — Новую Біблію, без якой не можа абысціся. У галаве туманіцца, яна даастатку забіваецца нечым цяжкім, непаваротлівым — Ён урэшце засынае, забыўшыся выключыць Новую Біблію. У сне, як у іншым свеце, Яго штосьці трывожыць, неадчэпнае, пакутлівае, Ён уздрыгвае, мармыча штосьці, — ці то кліча некага, ці то жаліцца некаму. Ён ніяк не можа супакоіцца, як і не можа вызваліцца ад цяжкога ліпкага сну, што скоўвае цела да раніцы.

II

А раніцаю, адсунуўшы шторы на вакне, Ён бачыць прыбелены асфальт, прыбеленыя плоскія дахі, і тады здагадваецца, што трэба рабіць.

— Сягоння ж субота, ты куды намыльваешся? — пытае жонка.

— Дамоў з'езджу. Мне аднаму пабыць хочацца, — маніць Ён, не падымаючы вачэй, бо добра ведае, што адзін да скону дзён не можа быць, і таму даказваць і тлумачыць штосьці жонцы, а тым болей, спрачацца з ёю — нявarta: адным чалавекам больш ля яго, адным менш — якая розніца?

Вуліца, паварот, святлафор на скрыжаваннях, шэрае брудная месіва, што сцелецца пад колы, і вось — ускраіна, знаёмая пяціпавярхоўка, акно на пятым, адкуль Яна, няшчасная, вылецела...

Прытармазіўшы, Ён глушыць машыну і нерухома глядзіць на цяпер зашторанае акно. Шум горада, як і шум машын, усё, чым быў заняты цалюткімі днямі, нават Новая Біблія — адступае, Ён суцішваецца, і тады ўжо выплывае Яе голас, глухаваты, аксамітавы:

— З гэтым Алкашом развесціся — развялася, а разысціся — не магу. Куды падацца з двухпакаёўкі, калі сын на руках? За якія грошы я тую кватэру куплю! А гэтую Алкаш і не збіраецца мяняць. Як хто знарок прыдумаў гэтыя клетухі-хрушчоўкі, каб людзі пакутавалі...

Голас быў блізкі, жывы — і гэта супакойвала. Падумалася, што, магчыма, каханне — гэта і ёсць адчуванне еднасці: і голасу, і паху цела, і дотыку...

— Ой, міленькі ты мой, узяў бы ты мяне з сабой, — пры развітанні Яна часта казала гэтыя словы, напаўсур'ёз-напаўжартам, гаварыла іх нараспеў, бо і сама добра ведала, што нікуды Ён Яе не змножа ўзяць.

І куды ж Ён мог узяць Яе, у які Край? І дзе ж ён, той Край шчаслівы, у якой старане-старонцы?

— Нічога, калі голас твой гучыць, то мы ўсё яшчэ разам, — шэпча Ён і тут жа, завёўшы машыну, газануўшы, набірае хуткасць і пакідае Алкаша, вечна вясёлага і шчаслівага, якому ўсё да лямпачкі і які ўсім да лямпачкі, каб толькі не атручанае паветра, якое вечна клупціцца ля яго. Мабыць, у гэтым паветры Яна і пачала задыхацца і, каб зусім не задыхнуцца, выскачыла ў акно.

А, можа, усё і не так было, можа, аднойчы, як гэта бывае ў жанчын, Яна адчула, што ёсць Час, — мо ў люстэрка зірнула і сівы волас угледзела, і падзівілася напачатку, што гэтак рана сівець пачала, хоць маладой сябе пачувала, ды і Часу не адчувала, а тут ні з таго ні з сяго адчула, што нешта чэпкае і ўладнае бярэ ў палон і з кожнай хвілінаю ўсё хутчэй і хутчэй адносіць туды, дзе засмяглыя сухія берагі адзіноты, дзе прыцэльна-цыганскі ацэначны позірк мужчыны, ад якога пачуваеш сябе вінаватай немаведама за што, мо нават і за тое, што на свет паявілася ды з гэтым Алкашом звязалася, дзе смех беспрычынны знікае, і тады Ёй, няшчаснай, гэтак захацелася хоць адно маленечкае імгненне пабыць свабоднай, гэтак захацелася вырвацца з плыні Часу, што Яна, адчайная, вылецела...

Дактары казалі, што сэрца ў Яе спынілася раней, яшчэ ў палёце, да ўдару аб шэры асфальт. Казалі яшчэ, што такое ў многіх бывае, — мабыць, надта ўжо дорага чалавек плаціць за свабоду...

Палі, пералескі, а потым, праз якую гадзіну, ля дарогі на бетонным слупку мільгае: “Жыціва”.

Машына ўкочваецца ў вёску, сунецца да памятнай вузкай вулкі. Там машына спыняецца, і Ён выходзіць з яе. Удыхаючы на ўсе грудзі халаднаватае паветра, Ён адчувае, што гэтым разам павуцінне так і не знікла, хоць дагэтуль яно само па сабе знікала, яно знікала нават тады, калі шыльдачку на бетонным слупку бачыў.

Пасля гулкай машыны ад цішыні аж у вушах звініць. Прыбеленай вулкаю ідзе Ён за агароды, да высокага абрывістага берага рачулкі, дзе высяцца ціхія бярозы і сосны, дзе між дрэў агароджаныя магілы. Ён заходзіць за агароджу адной з іх і застывае перад шэрым гранітам, у які ўмацаваны два фотаздымкі: мужчына і жанчына глядзяць у вочы, ці то спытаць штосьці хочуць, ці то параіць.

Ён зноўку суцішваецца — хоча пачуць іх галасы. Кожны раз, калі прыходзіў сюды, чуў іх галасы, і тады вобмігам злятала з цела павуцінне і штосьці цёмнае, гідкае, што збіралася ў душы днямі і тыднямі, пачынала выцякаць з грудзей — струменіць у шэрую зямлю,

(Працяг на стар. 14—15)





## Сцэнограф Аскар Марыкс

**110-гадоваму юбілею старэйшага майстра беларускай сцэнаграфіі Аскара Марыкса прысвечана выстава ў гасцёўні Галубка, філіяле Дзяржаўнага музея музычнай і тэатральнай культуры Беларусі.**

**Аскар Марыкс нарадзіўся ў 1890 годзе ў Львове. Суровая жыццёвая школа чакала мастака на пачатку творчай дзейнасці — вандраванні па Заходняй Еўропе, патрэба працаваць за акраец хлеба. Але над усім панавала прага да вучобы. І гэтая прага перамагла ўсе перашкоды — Марыкс стаў студэнтам пражскага філіяла Венскай акадэміі мастацтваў. Была таксама вучоба ў І. Мільберга, К. Канберга, у Варшаўскай студыі заахвочвання мастакоў.**

**На Беларусь Марыкс прыехаў ужо сталым мастаком, маючы за плячыма дзесяцігадовую практыку мастака-дэкаратара, архітэктара, прыкладніка. Ягоныя працы былі вядомыя ў Заходняй Еўропе, потым у Расіі. Знаходзячыся яшчэ ў Чырвонай Арміі, Марыкс пачынае сумесна з мастаком Елісеевым займацца мастацкім афармленнем спектакляў у Беларускім Дзяржаўным тэатры. Пасля дэмабілізацыі, пачынаючы з 1922 г., разам са старэйшым майстрам беларускай сцэны Е. Міровічам ён прымае самы актыўны ўдзел у стварэнні Першага Беларускага тэатра. За час працы ў БДТ-1 А. Марыкс зрабіў сцэнічнае афармленне да шэрагу спектакляў, якія ўвайшлі ў скарбонку беларускага мастацтва. Цікавасць задумкі, таленавітая інтэрпрэтацыя беларускіх фальклорна-этнаграфічных матываў вызначаюць афармленне спектакляў на нацыянальную тэму: "Машэка", "Салавей", "Кастусь Каліноўскі" і інш.**

**Мастак заўсёды вельмі далікатна вытрымліваў стылістычныя асаблівасці часу, калі ствараў свой асаблівы сусвет на сцэнічнай пляцоўцы ў спектаклях класічнага рэпертуару.**

**Дэкарацыі гэтага мастака вылучалі ясная і строгая дакладнасць сцэнічнай прасторы. Усе яго работы вылучала высокая культура малюнка, выразная чысціня ліній і кампазіцыі.**

**Усе намаганні, увесь свой шматгранны талент накіроўваў мастак на больш поўнае раскрыццё думкі рэжысёра сродкамі выяўленчага мастацтва, стварэнне цэласнага арганізма спектакля.**

**Распрацоўка сцэнічнага касцюма і грыму, зробленая А. Марыксам, і прадстаўленая ў экспазіцыі выставы, адмысловая выява персанажа. Дэталёва распрацаваныя, шматгранныя, характэрныя рысы і аксесуары гэтай выявы — сапраўдныя "партрэты" дзеючых асоб. У іх усё апраўдана вобразнай характарыстыкай, няма перагружанасці, мітусні, перабольшвання нязначных дэталяў.**

**А. Марыкс упершыню зрабіў на беларускай сцэне трохмернае афармленне сцэнічнай пляцоўкі замест тагачаснага ўмоўнага "павільёна". З яго імем звязана стварэнне першага ў Беларусі макета да афармлення спектакля "Мешчанін у дваранстве".**

**Больш за 200 спектакляў аформлена мастаком толькі на беларускай сцэне. Сярод іх работы для тэатраў імя Янкі Купалы, імя Якуба Коласа, Дзяржаўнага тэатра оперы і балета. Працаваў ён таксама для тэатраў Смаленска, Горкага, Ташкента.**

**А. Марыкс з'яўляецца аўтарам графічных серый "Помнікі дойлідства Беларусі", "Беларускае адзенне", "Беларусь старажытная", шэрагу цікавых пано, вітражоў. Яго алоўку і пэндзлю належыць шмат партрэтаў, пейзажаў, нацюрмортаў, архітэктурных праектаў. Усе яны прайшлі самае цяжкае для мастака выпрабаванне — выпрабаванне Часам, які захаваў хаця далёка не ўсе ягоныя творы, але ўсё ж дазволіў нам атрымаць асалоду ад знаёмства з гэтым цікавым пластом гісторыі беларускага мастацтва.**

**М. Т.**

МУЗЫКА

# ...ухоўнасцю свет уратуецца...

***Імя Віталя Радзёнава добра ведаюць чытачы "ЛіМа". Музыкант-асветнік, педагог, які ўсё сваё жыццё аддае творчасці і падтрымцы маладых талентаў, ён больш за чвэрць стагоддзя вядзе заняткі па кампазіцыі ў Гродзенскім і Лідскім музычных вучылішчах, у дзіцячых музычных школах – Ваўкавыскай, Лідскай, Індурскай, Луненскай. Верцялішкаўскай і іншых. Ён проста апантаны ідэяй, каб усе адораныя дзеці і падлеткі пазнаёміліся з асновамі кампазіцыі, далучыліся да музычнай творчасці.***

***Зрэшты, пра В. Радзёнава і яго колішніх вучняў, якія абралі шлях прафесійнага кампазітара, "ЛіМ" неаднойчы распавядаў. А сам Віталь Канстанцінавіч рэгулярна публікуе ў штотыднёвіку свае карэспандэнцыі пра музычнае жыццё Гарадзеншчыны.***



**— Віталь Канстанцінавіч, вядома, што вы з'яўляецеся старшынёй Асацыяцыі кампазітараў Гарадзеншчыны. Раскажыце пра кола сваіх абавязкаў.**

— Асацыяцыя была створана па маёй ініцыятыве ў 1994 годзе і дзейнічае пры абласным метадычным цэнтры народнай творчасці. У яе складзе каля сямідзесяці аўтараў, кожны з якіх мае патрэбу ў творчай дапамозе і падтрымцы. Арганізоўваю аўтарскія канцэрты, прадстаўляю творы на радыё і тэлебачанні, а цяпер яшчэ і вяду канцэрты ў Камернай зале Гродзенскай абласной філармоніі. Даводзіцца садзейнічаць у выданні нотных зборнікаў нашых кампазітараў, выпуску аўдыёкасет. Да кожнага трэба знайсці індывідуальны падыход, перад кожным адкрыць творчыя далягляды.

Вельмі рады, што прыклаў пэўныя намаганні для прапаганды творчасці тых, хто працуе ў песенным жанры, у прыватнасці, Алены Пячыннай, Вячаслава Пыпеца, Аляксандра Чопчыца, Аляксандра Маркелава, Марка Копа. Дапамагаю і тым, хто піша камерную і харавую музыку. Гэта Вераніка Швец, Станіслаў Гулецкі, Сяргей Бугасаў, Канстанцін Яскоў.

УРАЖАННЕ

# Сола імправізацыі з меладрамай

***Маскоўскія тэатразнаўцы даўно вырашылі, што сапраўдны тэатр сёння існуе не ў сталіцы, а ў правінцыі. Менавіта ў тэатральных мястэчках Расіі — "цнатлівых", неразбэшчаных на эксперыменты — "вырабляюцца" сапраўдныя спектаклі-пярліны...***

***Абласныя тэатры Беларусі сёння таксама мусяць здзіўляць нашых тэатралаў (матэрыял В. Салеева "Тэатр у абласным вымярэнні", які быў надрукаваны ў мінулым нумары "ЛіМа" — гэта толькі пачатак размовы пра стан беларускіх абласных тэатраў, так бы мовіць, адзін бок медаля). Напрыклад, на рэспубліканскім тэатральным фестывалі "Маладзечанская сакавіца-2001" і журы, і крытыкам, і гледачам прыйшоўся даспадобы якраз спектакль Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра "Трышчан ды Іжота" па п'есе С. Кавалёва. Нечакана фэст адкрыў у вядомым рэжысёры-лялечніку А. Жугждзе таленавітага драматычнага рэжысёра, які мусіў стварыць на сцэне жывое, яркае тэатральнае відовішча. Мо крышачку горш гэта атрымалася ў галоўнага рэжысёра Маладзечанскага абласнога драматычнага тэатра М. Мацкевіча, які паказаў на фестывалі прэм'еру — спектакль "Кім" па п'есе А. Дударава. Але і стваральнікі "Кіма" імкнуліся дасягнуць пэўнага мастакоўскага ўзроўню.***

***Адным словам ўражанні ад спектакляў засталіся (на жаль, падрабязна расказаць пра фестываль "Маладзечанская сакавіца-2001" на старонках "ЛіМа" не выпадала). І згадаць пра іх зараз ёсць падстава ў газетным роздуме пра сучасныя мастацкія дасягненні абласных драматычных тэатраў Беларусі.***

I

...Нервовы праменьчык пражэктара спяшаецца за зменлівым тварам Іжоты. Але куды яму! Як можна паспець зафіксаваць рамантыку самаахвяравання?.. Як можна выхапіць бязлітасным святлом хваравітую хісткасць пачуццяў, каб услед за пражэктарам злавіла яе напружанае вока гледача?.. Немагчыма. І непатрэбна. Гэтая рамантыка паўпачуццяў, паўценяў, недасказанасці, у якую ўводзіць цудоўная музыка гітарыста Р. Блэкмара, перадаецца глядацкай зале інтуітыўна — падсвядомай энергетыкай сярэднявечча. Але што гэта?.. Рамантычны карабель кахання змяняецца сучасным увасабленнем тэатральных падмосткаў, на якіх, звесіўшы ногі, сядзіць з цыгарэткай у руцэ актрыса і сіпаватым голасам пытае рэжысёра, як ёй іграць?..

У эпіграф да сваёй п'есы вядомы беларускі драматург С. Кавалёў выносіць словы К. Льюіса: "Мы хочам зразумець змест п'есы, у якой самі бяром удзел як акцёры. Але ці могуць акцёры зразумець змест гранай імі п'есы? Не з'яўляемся ані яе аўтарамі, ані яе рэжысёрамі, ані нават гледачамі. Выступаем на сцэне". Рэжысёр Алег Жугжда, які ставіць "Трышчана ды Іжоту" практычна без "купюр", мусіць данесці гэтую ідэю праз ашаламляльныя пераходы ад непасрэднага існавання герояў у сцэнічнай прасторы да поўнага адхілення ад яе. Выкарыстоўваючы своеасаблівы прыём "тэатр у тэатры", — мы бачым на рэальнай сцэне іншыя тэатральныя падмосткі — рэжысёр паказвае і сутнасць закуліснага быцця тэатра, і сыгранае ўмоўнае жыццё, якія часам пераплятаюцца адно з адным. А наогул спектакль Жугжды — гэта суцэльная імправізацыя.

Імправізацыя пачынаецца ўжо з цікава прадстаўленай сцэнаграфіі. Тут не пабачыш раскошы сярэднявечча, кідкай шыкоўнасці касцюмаў. З усіх дэкарацый — дошка, што гайдаецца на белых фіранках. У адной сцэне яна сімвалізуе карабель, на якім Трышчан вязе Іжоту да свайго дзядзькі, караля Маркі. У другой — шахматнае поле, за якім каварны Марка мовіць свой "стратэгічны" план. У апошняй жа сцэне дошка падзяляецца на дзве паловы — і з'яўляюцца імправізаваныя коні з палатнянымі хвастамі... Ніякай раскошы, усё проста і, мабыць, геніяльна?!..

Вынаходніцтва рэжысёра выяўляецца ў жанравым вызначэнні спектакля: трагікамічная парафраза ў 2-х дзеях. Гэта — ўдалая гульня з формай, тонкае балансаванне паміж трагедыяй і камедыяй. А. Жугжда смела маніпулюе акцёрамі, рашуча і непрыкметна націскае на вядомыя толькі яму рычажкі, — і напружаны драматызм, не дасягаючы свайго "апагею", умомант саступае месца камічным рэплікам, сучаснаму "здароваму" скептыцызму. Ці можа акцёр-Трагік пагадзіцца з тым, што яго персанаж не памірае напрыканцы спектакля? З гумарам прадстаўляючы караля Марку, ён дэманстратыўна, па-тэатральнаму, мусіць забіць сябе нажом.

Так, спектакль мае скептычны характар. Тут усё падвяргаецца сумніву. І каханне Трышчана ды Іжоты — гэта толькі пырскі чарадзейнага півта. Скептычна разглядаецца цнатлівасць Іжоты, а таксама "сарамлівасць" яе вынаходлівай служкі Брагіні: цнатлівая, вясёлая Брагіня (гэтую ролю з добрым густам вядзе Ганна Лабанок) выглядае надзвычай пластычнай, раскаванай, зямной жанчынай. У першую ж шлюбную ноч яна паводзіць сябе як сапраўдная куртызанка. Ставіцца пад сумненне і велічнасць учынку самаахвяравання Іжоты (Н. Калакустава). На жаль, самаахвяраванне ў каханні падаецца недарэчным, непатрэбным і нават



ПАЗНАЕМІЦЦА з Уладзімірам Мікалаевічам Дубоўкам мне давялося ў сувязі з вывучэннем ягонай творчасці. Я пісаў пра паэта манаграфічны артыкул для двухтомнай "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры" (1964—1966), а потым і кнігу "Уладзімір Дубоўка" (1965). Ні той артыкул, які рыхтаваўся для першага тома "Гісторыі", ні кнігу нельга было напісаць без дапамогі Уладзіміра Мікалаевіча, бо толькі ў яго самога я мог узяць тады яшчэ не апублікаваную паэму "Штурмуйце будучыні аванпосты!" Гэтая паэма, напісаная ў 1929 годзе, была забаронена бальшавіцкай цэнзурай. Але ненадрукаваны твор насуперак усім этычным нормам падвяргаўся публічнай разноснай крытыцы не толькі тады, калі паэт сядзеў у турме ці пакутаваў у высылках, але і пасля ягонай афіцыйнай рэабілітацыі.

паліцы, шчыльна набітыя рознымі выданнямі, а яшчэ была зусім маленькая спальня. Сустрэў гаспадар вельмі гасцінна. На стале хутка з'явілася бутэлька гарэлкі, з кухні, дзе завіхалася жонка паэта Марыля Пятроўна, таксама неўзабаве пайшоў прыемны пах свежага мяса, якое смажылася на патэльні. Пад чарку і скварку гаворка пайшла жвава і свабодна.

Ды ў адным пункце я, можна сказаць, трохі падкачаў. Марыля Пятроўна ці не адразу спыталася: "Як вы думаеце, ці пасадзілі б Уладзіміра Мікалаевіча, каб ён тады менш вытыркаўся, не быў такім ваяўнічым?" Я пра тую важнасць ведаў, чытаў, што і ўкраінцы казалі, што ён "найкрашчы бузоцер". І без усякай дыпламатыі "сучешыў" жанчыну, сказаўшы, што пасадзілі б абавязкова, бо Уладзімір Мікалаевіч у нашай літаратуры быў згаданае шкло мне. І яно яшчэ доўга ўпрыгожвала ўжо мой рабочы стол. У розны час падарыў мне Уладзімір Мікалаевіч некалькі сваіх фотаздымкаў, шэраг сваіх жа кніг з прыязнымі аўтографамі, а таксама першае выданне Багдановічавага "Вянка", з якім ён не расставаўся ў самыя цяжкія моманты жыцця. Пасля смерці Дубоўкі я перадаў гэты падарунак у музей Багдановіча.

Вялікую замілаванасць меў Дубоўка да беларускасці, на няўвагу да яе рэагаваў абвострана. Калі ён пісаў аповесці "Жоўтая акацыя" і "Ганна Амелька", дык спецыяльна цікавіўся беларускімі назвамі, як ён казаў, "многіх раслін, кветак і зёлак". Дзеля гэтага яму спатрэбіліся і выдадзеныя ў нас па рускай мове кнігі "Флора Беларусі" і "Лекавыя расліны". Першую з гэтых кніг, падрыхтаваных супрацоўнікамі АН БССР, ён набыў сам, а другую па ягонай просьбе прафесара Малчанава, які захапляўся ідэяй стварэння вялікіх паветраных шароў, але быў пасаджаны. У 1941 годзе, калі аэрастаты пачалі выкарыстоўвацца для абароны Масквы пры налётах гітлераўскай авіяцыі, Сталін успомніў пра Малчанава і загадаў яго тэрмінова вызваліць. Аказалася, што той памёр у турме з голаду, бо ў яго зэкаўскую пайку адбіралі крымінальнікі. І ім гэта сыходзіла з рук. Раней...

Часта гаварылі пра пісьменнікаў. Дубоўка разважаў пра верагодных даносчыкаў у пісьменніцкім асяроддзі, прыхільна выказваўся пра Броўку, які ахвотна згадзіўся напісаць прадмову для кнігі перакладзеных Уладзімірам Мікалаевічам санетаў Шэкспіра, скептычна адзываўся пра Глебку. Той доўга марудзіў з прадмовай да першай пасля рэабілітацыі паэта кнігі яго выбраных твораў (1959). Даваенныя творы тут публікаваліся

# Уладзімір Дубоўка ў жыцці

Гаварыць пра сапраўдную цану гэтых разносаў, якія ў пасляваенныя гады рабіліся і тымі, хто самога твора не бачыў у вочы, вядома, было немагчыма без вывучэння тэксту паэмы. Дубоўка дазволіў мне пазнаёміцца з паэмай па ягоным двухтомніку, які рыхтаваўся да друку ў выдавецтве "Беларусь", а пазней падарыў і машынапісную копію, па якой твор быў урэшце апубліканы. На ёй рукою Дубоўкі пазначана: "Гэта — копія, зробленая Я. Э. Лужанінай з той копіі, якая была ў Бэнды".

Пра ваяўнічага вульгарызатара Л. Бэндэ Уладзімір Мікалаевіч заўсёды гаварыў з вялікім абурэннем, бо гэты пагромшчык беларускай літаратуры сваімі беспадстаўнымі нападкамі папсаваў яму шмат крыві. І вось што парадаксальна. Нібыта прававерныя артадоксы тыпу Бэндэ падводзілі ідэалагічны грунт пад рэпрэсіраванне выдатных пісьменнікаў, а іх творы прыкармальвалі і потым з гэтага мелі свой навар. Паэму "Штурмуйце будучыні аванпосты!" прыйшлося выкупляць у Бэндэ. Але рабіў гэта не сам Дубоўка, які, як ён казаў, баяўся, што яму ягоны ж твор не прададуць, а праз Лужаніных. Адсюль і згаданая прыпіска, што копію зрабіла Я. Э. Лужаніна — жонка Максіма Лужаніна, вядомая і як добрая беларуская паэтэса, якая друкавалася пад уласным прозвішчам (Яўгенія Эдгардаўна Пфляўмбаум).

Падараваную мне копію з аўтографам Дубоўкі я збярог. Уладзімір Мікалаевіч уклаў яе ў блакнотную вокладку з малюнкам усмешыстай і вельмі прыгожай беларусачкі на фоне белых бяроз. Дзяўчына трымае ў руках поўны кошык (з ладным контурам) суніц. Усё глядзіцца вельмі добра. Словам, густ паэта праявіўся і тут.

Сама копія захоўвае каштоўнасць і пасля публікацыі твора, бо там ёсць праўкі, якія не ўвайшлі ў друкаваны тэкст, а галоўнае, што яна дазваляе зрабіць некаторыя ўдакладненні.

У самым першым лісце да мяне Дубоўка паведаміў, што напісаны ў 1929 годзе тэкст паэмы ён, вярнуўшыся да літаратурнай працы, пакінуў без істотных змен. "Апрача лёгкіх паправак у казках народных, якія ўваходзяць у мой твор "Штурмуйце будучыні аванпосты!", ніякіх паправак больш я не рабіў", — падкрэсліў паэт. На самай справе ў казцы, якая атрымала назву "Народнае апавяданне пра музыку і пра тое, як ён прадаваў чорту сваю скрыпку", папраўкі былі значныя. Яны змянілі танальнасць таго народнага апавядання. Яно ў друкаваным тэксце мае аптымістычны фінал. Атрыманыя за скрыпку ад чорта дукаты музыка тут кідае ў балота і сваёй ігрой знішчае ўсіх чарцей разам з пеклам. "І пайшоў музыка ў людзі, // і цяпер па свету ходзіць. // Ён людзей да шчасця будзіць, // ён заўсёды ў народзе", а ягоная "скрыпка грае, як жывая".

Зусім інакш канчалася казка ў рэдакцыі 1929 года. Там перамагаў чорт, які сам на скрыпцы добра іграць не змог, бо не зауважыў, што вытрас з яе душу, але музыку абяззброіў — той узяў чортавы дукаты і з гора напіўся: скрыпка, пазбаўленая душы, ужо не загаварыла і ў яго. "Скрыпка тая, як нямая, // Быццам голасу не мае, // Толькі струны смык шаруе, // Толькі пекла ірытуе. // (...) Тая скрыпка больш не грае, // Больш яна не вымаўляе. // Хай забудзе люд вясковы, // Як са струн яе злятаці словы".

Такая канцоўка несла ў сабе скрытую апазіцыйнасць — непрымание бяздушнай казёншчыны ў мастацтве. Нацярпеўшыся ад бальшавіцкай улады, Дубоўка, здаецца, ужо не хацеў яе чапаць няхай сабе і асцярожнымі намёкамі. Таму і перайначыў карэнным чынам ранейшы фінал казкі.

Мае непасрэднае знаёмства з жывым паэтам адбылося ў самым пачатку 1964 года. Запрасіў прыехаць у Маскву сам Дубоўка, паабяцаўшы паказаць усе свае лісты да А. Бабарэкі, з якіх у Мінск прысылаў мне толькі асобныя перадрукаваныя на машынцы вытрымкі. Каб лішне не дакучаць чалавеку, уладкаваўся я ў гасцініцы, бо збіраўся трохі папрацаваць і ў маскоўскіх бібліятэках, а да Уладзіміра Мікалаевіча некалькі разоў ездзіў на кватэру.

Кватэра ў яго была ў Новых Чаромушках, сціплая паўтарачка, адзін нармальны пакой, дзе стаялі рабочы стол паэта і кніжныя

надзвычай яркай фігурай, а такіх бралі ў першую чаргу. Так што шансаў уцалець у яго не было. Марыля Пятроўна спрачацца не стала, але ўсё ж трохі сумелася. Было зразумела, як моцна балеў ёй той здзек, які выпаў на паэтаву і яе ўласную долю.

Выстаўленую Дубоўкам бутэльку белай мы, вядома, выпілі да астатку. І толькі ўдвух. Марыля Пятроўна тут нам не дапамагала зусім, а закусь падносіла спраўна і шчодра. У такой атмасферы гаворка зацягнулася. І Уладзімір Мікалаевіч у гасцініцу мяне не адпусціў, сказаў, што пасля чаркі ды познім часам лепш не рызыкаваць. Давялося пагадзіцца, хоць і няёмка было даваць лішні клопат гаспадарам.

Спаў я на пасцелі, засланай беласнежнымі просцінамі, якія Марыля Пятроўна дастала з шафы, і дрэнных сноў не бачыў. Галава калі перад сном злёгку і кружылася, дык не ад выпітай гарэлкі, а ад усведамлення, што пашчасціла пабыць у выдатных людзей.

Уладзімір Мікалаевіч таксама выглядаў зусім цвярозым. Ён быў не толькі душэўна, але і фізічна вельмі моцным. Ужо ў 1966 годзе ў вершы "Я не бываў дармажэрцам ніколі" ён пісаў пра сябе: "Рукі ніколі мае не гулялі, // быццам былі яны самі са сталі. // (...) Сталь датрымала. І я не зламаны". Ён збіраўся дацягнуць да 2000 года, гэта значыць пражыць цэлае стагоддзе. І мог бы, каб не прыкры, недарэчны выпадак.

У сакавіку 1976 года захварэла Марыля Пятроўна. Дубоўка раніцой пайшоў у аптэку за лекамі, а вяртаючыся, збочыў з асфальту і, каб было карацей, пашыбаваў праз горку па сцежцы, на якой пасліznуўся. Снег на той сцежцы днём растаў, але яна за ноч пакрылася тонкім лёдам, на які паэт не звярнуў увагі. У выніку аказалася зламанай шыйка бядра. Спатрэбілася тэрміновая аперацыя, якой Дубоўкава сэрца не вытрымала. Так паздзекаваўся каварны лёс з чалавека, які за амаль трыццаць гулагаўскіх гадоў перажыў мноства самых складаных сітуацый, а цяпер загінуў з-за выпадковага падзення ў добра ўладкаваным горадзе.

І ў паслягулагаўскія гады паэт быў яшчэ вельмі імпазантны. Хораша глядзелася яго шыкоўная барада патрыярха, здзіўлялі, здавалася, зусім маладыя вочы, палкі тэмперамент і вытанчаная далікатнасць, найперш да жанчын. Пазнаёміўшыся ў Мінску з маімі сямейнікамі (жонка і двое дзяцей), ён потым казаў ім добрыя словы і пры сустрэчах, і ў сваіх лістах. Напрыклад, пра жонку (яна захавала сваё дзявочае прозвішча і вядома нашым мовазнаўцам як Корань Ніна) пісаў: "Прывітанне вашай разумніцы жонцы". Называў яе і "мілай", і "слаўнай". Словам, быў галантны і з ёю.

Асаблівую прыхільнасць выказваў Уладзімір Мікалаевіч да дзяцей, заўсёды прыносіў ім цукеркі, рабіў іншыя падарункі. Людзе, цяперашняй Людміле Сіньковай (Корань), падпісваў свае кніжкі казак, а то нагадваў пра яе і так: "Людачцы скажыце, што як прыеду ў Мінск — абавязкова прыеду да яе ў госці". Не забываўся ўпамянуць і Косцю, хоць той быў яшчэ зусім малы (нарадзіўся ў 1963 годзе).

Гэткая ўвага да дзяцей была вельмі шчырай. Тлумачылася яна яшчэ і тым, што сам Дубоўка страціў свайго адзінага сына Аліка, які ў падлеткавым узросце загінуў праз няшчасны выпадак. Ён быў амаль што равеснікам са мною (толькі на адзін год старэйшы). Магчыма, што і з-за гэтага паэт з бацькоўскай клапатлівасцю часам перасцерагаў мяне, нагадваў пра асцярожнасць. Пра свае нягоды часоў зняволення Уладзімір Мікалаевіч звычайна расказваў з гумарам, а калі ўспамінаў пра сына, слёзы набягалі на яго вочы.

Як бадай і кожны далікатны чалавек, Дубоўка не цярпеў хамства. Для прыкладу прыгадаю такі выпадак. У нашай гасцініцы "Мінск" яго пасялілі ў пакой, дзе было трошкі трэснутае настольнае шкло з прыгожым беларускім арнаментам. Калі прыйшла пара высяляцца, адміністратарка гасцініцы прычапілася да паэта і садрала з яго ладныя грошы за тое шкло. Гэта раззлавала Дубоўку, бо ён зразумеў, што так робіць не толькі з ім, разлічваючы, што кожны чарговы пастаялец таксама будзе плаціць, але не пацягне з сабою груваcткую рэч. Каб спыніць гэткае нахітрае, але непрыемнае для добрага чалавека махлярства, ён аддаў



даставалі мы з жонкай. Але абодва выданні пры ўсёй іх агульнай навуковай грунтоўнасці расчаравалі паэта, бо ён не знайшоў там ні таго, што яму было патрэбна, ні павагі да ўласна беларускай адметнасці. Вось што ён тады нам напісаў: "Сардэчна дзякую Вам за прысланую кнігу — лекавыя расліны. Больш экземпляраў, — калі не пасылалі, — не шукайце і не пасылайце. Мне яна не спадабалася вельмі сваёй неахайнасцю ў дачыненні да беларускіх назваў. Настолькі бяздарныя ўкладальнікі гэтае кнігі, што не здолелі даць беларускія назвы да ўсіх раслін. Падумаць толькі: Эліза Ажэшка, польская пісьменніца, здолела сабраць некалькі сот назваў беларускіх раслін, а тут адмысловыя інстытуты, цэлыя калектывы, з дазволу сказаць, "вучоных" аказаліся бездапаможнымі нават пры тых "складаных задачах", як назва для рамашкі (рамонка), і ім падобных... Проста "цуд" і "цуд незвычайны".

Дубоўка набываў дыялектныя слоўнікі, у тым ліку шматтомныя, уважліва чытаў тое, што пісалася пра беларускую мову. Калі ў рэцэнзіі для часопіса "Полымя" я са спасылкай на творы многіх беларускіх пісьменнікаў даводзіў, што слова "шкода" законна ўжываецца і ў значэнні шкадавання (напрыклад, гэтага чалавека мне шкода), дык паэт звярнуў на гэта ўвагу і падтрымаў мяне: "Ледзь не забыўся — добрая Ваша рэцэнзія пра "шкоду". Тым часам сама рэдакцыя "Полымя" цалкам перайшла на "шкаду", што відаць па тым жа першым нумары. Ну, але ліха з імі. Вы выставілі такую кагорту пісьменнікаў, што і мне цяпер не сорамна будзе, калі ў маім двухтомніку будуць знаходзіць слова "шкода" (там, дзе другія пішуць "шкада").

Як выйшаў першы том "Гісторыі беларускай савецкай літаратуры", паэт папрасіў заказаць для яго ажно пяць экземпляраў. Ён паведамляў пра тое, што пісалася пра яго ў выданнях, якіх у мяне не было пад рукамі, часам прысылаў вырazкі з газетнымі артыкуламі. Адна з такіх выразак (з маскоўскай газеты "Гудок") зміячала і фотаздымак бюста паэта. Гэты бюст зрабіў скульптар М. Анікушын. Ён з любасцю падаў натхнёнага Дубоўку ва ўсёй ягонай красе. У артыкуле таксама падкрэслівалася: "Цікава вырашаны закончаны нядаўна партрэт беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі. Гэта — вобраз чалавека невычарпальнай сілы духу, яркага тэмпераменту, вялікай душы". І тут не было перабольшання.

У тыя гады Дубоўка яшчэ здзіўляў сваёй дужасцю. Ён па 14 гадзін у суткі шчыраваў за пісьменніцкім сталом, займаўся і фізічнай працай, сам зрабіў для кватэры ўсю мэблю, частка з якой цяпер экспануецца ў музеі.

Размовы з паэтам падчас сустрэч у Маскве, а найбольш у Мінску былі самыя розныя. Паэт выказваў сумненні наконт таго, ці мог Сталін без дапамогі царскай ахранкі ўцякаць з Краснаярскага краю, згадваў

ў моцна скалечаным выглядзе (рэдагаваў зборнік А. Кучар). А Глебка, які пасля арышту Уладзіміра Мікалаевіча публічна сцвярджаў, што ў ягоных творах "можна знайсці схованага Кайзера, Пілсудскага, Балаховіча і інш." (жахлівае па тых часах, але зусім беспадстаўнае абвінавачанне), цяпер прызнаў, што перабольшваў недахопы Дубоўкавай паэзіі, аднак жа зноў настойваў, што былі ў ёй "значныя памылкі і ідэйныя зрывы". З гэтага вынікала, што былы сябра па "Узвышшы", які пісаў прадмову ўжо ў рангу акадэміка АН БССР, афіцыйную рэабілітацыю Дубоўкі прызнаваў толькі часткова, з крыўднымі агаворкамі.

Пэўная раўнівасць адчувалася ў Дубоўкавых разважаннях пра А. Куляшова. "Няўжо ён і праўда геній?", — аднойчы пытаўся паэт.

Была ў яго насцярожанасць наконт трываласці той лібералізацыі савецкага грамадства, якую распачаў Хрушчоў. І гэтая насцярожанасць, якая ў перыяд брэжнеўшчыны яшчэ ўзмацнілася, мела важкія падставы. Пры жыцці Дубоўкі не былі надрукаваны вершы "Даносчыкі са стажам", "Падобны з твару да машчэй" (гэты верш і не разлічваўся на прыжыццёвую публікацыю), вялікі драматычны твор "Salus populi". Толькі невялічкі, самы бяскрыўдны ўрывак прапусціла цэнзура з паэмы "Свінцовы век", якая засталася няскончанай. Дубоўка, арыентуючыся на "Бронзавы век" Байрана, збіраўся тут даць маштабную сатыру на савецкую сучаснасць, але рызыкнуць напоўніцу ўрэшце паасцярогся.

У друку паэт сцвярджаў, што ў час зняволення ён зусім не пісаў мастацкіх твораў, хоць на самай справе некалькі вершаў стварыў і тады. Яны былі змешчаны ў замежнай прэсе.

Здавалася, што са мной ён гаварыў зусім адкрыта, бо мы абмяркоўвалі многае з таго, што тады лічылася недазволеным. Але, як я зразумеў пазней, не ўсё дагаворваў ён і мне. Дубоўка ніколі не згадваў напісаны ў верасні 1926 года верш "За ўсе краі, за ўсе народы свету", у якім выказаны гнеўны пратэст супраць удушэння бальшавікамі беларускай культуры. "Мы цацкай нейкай для чужынцаў сталі, // Пасмешышчам для свету усяго", — з горкай скрухай казаў тут паэт і з прарочкай рашучасцю папярэджваў свой прыдаўлены таталітарнай дзяржавай народ: "Пакуль ты сам не будзеш гаспадарыць, — // Не развітаешся з жабрацкай калітой".

Гэты верш, ананімна апублікаваны ў Заходняй Беларусі ў пачатку 1927 года (па іншых разыходзіўся пад псеўданімам Янка Крывічанін), стаў непасрэднай прычынай арышту Дубоўкі, хаця яму потым прыпісалі і ўдзел у антысавецкай суполцы, выдуманай карнымі органамі для расправы над нацыянальнай інтэлігенцыяй. Забыцца на галоўны канкрэтны доказ яго тагачаснай нелаяльнасці да бальшавікоў паэт не мог ні ў якім разе. Бо ўсе дэталі арышту ён помніў выдатна, расказваў, што яго ўзялі на працы ў Крамлі 20 ліпеня 1930 года (значыць, ахоўнікі ў штацкім цэлых тры гады шукалі крамольнага аўтара). Дзень быў па-летняму цёплы, сонечны. Яшчэ не ведаючы, што яго чакае, паэт прыйшоў на рабочае месца ў белым касцюме (ён любіў апранацца прыгожа). У гэтым касцюме яго і павезлі на расправу ў Мінск. За час дарожных пературбацый апратка трохі пашарэла. Але ўсё роўна ўзнікла пагалоска, што Дубоўку арыштавалі ў ніжняй бялізне, узяўшы з пасцелі. Згадваў пра гэта паэт ужо не без гумару, якім прыхоўваў даўні боль.

Цяпер раздаюцца галасы, што Дубоўка ўвогуле ніколі не быў прыхільнікам савецкай улады, заўсёды ставіўся да яе апазіцыйна. Мне думаецца, што гэта не так. Стаўленне да бальшавікоў у Дубоўкі, як і ў многіх іншых пісьменнікаў, у розныя часы было неаднолькавым. Калі бальшавікі, ратуючы сваю ўладу, перакроівалі беларускія землі, як самі лічылі патрэбным, не пытаючыся ў народа нават фармальнай згоды, дык нашу свядомую інтэлігенцыю гэта абурала. Калі ж яны, няхай і з меркаваннў часовых, тактычных, заяўлялі пра падтрымку беларушчыны, нашай нацыянальнай культуры, дык беларускія патрыёты імкнуліся

(Працяг на стар. 15)

## Закаханы ў Беларусь

Пад такой назвай у Маладзечанскай цэнтральнай бібліятэцы імя М. Багдановіча адкрылася выстава смаргонскага мастака Аляксандра Іванова. Напярэдадні гэта выстава дэманстравалася ў Смаргонскім краязнаўчым музеі.

Аляксандр Іваноў — мастак своеасаблівы, са складаным і даволі цяжкім лёсам. Вось ужо дванаццаты год ён літаральна прыкаваны да ложка, але працягвае ствараць свае цудоўныя карціны. Лёс пазбавіў яго магчымасці рухацца, адняў ногі і рукі. Аднак сапраўдны талент здольны перамагчы ўсе перашкоды: Аляксандр піша свае пейзажы, нацюрморты, трымаючы аловак і пэндзаль зубамі.

Дзяцінства і юнацтва мастака прайшло ў Астрахані, а Беларусь стала для яго другой радзімай. Тут ён скончыў Мінскі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, пасля чаго атрымаў размеркаванне на Гродзеншчыну, на Смаргонскі завод аптычнага станкабудавання.

Менавіта беларускія чароўныя краявіды нараджалі заўжды ў чулай душы творцы ўзнёслыя пачуцці і натхненне. Менавіта беларуская зямля, багатая добрымі людзьмі і непаўторнай прывабнасцю прыроды, дала Аляксандру Іванову сілу духу і моц, каб выжыць пасля цяжкай траўмы. І не проста выжыць, а спраўдзіць свой талент мастака.

Маладзечанская выстава — сёмая па ліку за ўсе дванаццаць гадоў хваробы майстра. А заслуга ў гэтым яго жонкі — Ларысы Мікалаеўны, якая стала сапраўдным натхняльнікам і падзвіжнікам творчасці свайго мужа.

Талент ніколі не бывае аднабаковым. І гэта так. Аляксандр Іваноў, акрамя жывапісу, заўжды захапляўся музыкай, сам прыгожа спяваў, іграў на многіх музычных інструментах. Хвароба забрала гэту магчымасць, але не канчаткова. Пасля таго, як сябры падарылі Івановым камп'ютэр, Аляксандр стаў пісаць музыку, свае музычныя творы, вельмі лірычныя, пяшчотныя, ён прысвячае блізкім і сябрам.

Нягледзячы на цяжкі лёс мастака, творы яго застаюцца светлымі, багатымі, цёплымі, яскравымі фарбамі, напоўненымі жыццялюбствам і аптымізмам.

**Ала КЛЕМЯНОК**
*г. Смаргонь*

## "Крыніца", № 68

Пабачыў свет жнівеньскі нумар часопіса "Крыніца", які адкрываецца "постаццю" Валерыя Маракова, аднаго з даволі цікавых, але маладаследаваных беларускіх паэтаў пачатку XX стагоддзя. Ён быў расстраляны восенню 1937 года сталінскімі апрычнікамі як "нацдэм" і "вораг народа", паспеўшы выдаць за сваё кароткае жыццё чатыры невялічкія зборнічкі вершаў. Друкуюцца невядомыя чытачам, пазбаўленыя бальшавіцкай цэнзуры вершы паэта, а таксама ягоны "жыццяпіс" ды словы наўздагон яго трагічнаму жыццю і паэтычнай творчасці літаратараў В. Рагойшы, М. Мішчанчука, А. Марціновіча, А. Бельскага і С. Верацілы.

У рубрыцы "ЁН" чытачы часопіса гэтаксама маюць магчымасць пазнаёміцца з жыццём і творчай біяграфіяй неардынарнага англійскага літаратара-ідыёлага Олдаса Хакслі і прачытаць поруч з распаведам пра пісьменніка яго навелу "Х'юберт і Мінні" ды эсэ "Культура і асоба" ў перакладзе з англійскай мовы.

Друкуюцца два цікавыя пераклады. Жанна Некрашэвіч ды Ірына Шкурдзюк пераклалі з лацінскай мовы "Верш на ахвярапрынашэнне чорнага быка ў Рыме, учыненае публічна нейкім грэкам дзеля супрацьстаяння чуме" знанага нашага земляка Міколы Гусоўскага, аўтара сусветнавядомай "Песні пра зубра".

Для рубрыкі "ЯНЫ" Святлана Явар пераклала з польскай мовы публіцыстыку Казіміра Барташэвіча "З гісторыі паўстання Касцюшкі".

Арыгінальныя тэксты сучаснай беларускай літаратуры таксама прысутнічаюць у жнівеньскім нумары часопіса.

У рубрыцы "У НАС": аповесць-эсэ Сяргея Верацілы "Смех багоў", аўтабіяграфічныя навелы Сяргея Рублеўскага, "Зацемкі з левай кішэні" Леаніда Галубовіча, арытмічная паэзія Міколы Купрэева.

У напаўсур'ёзнай рубрыцы "ЯНО" друкуюцца ўзвышаныя "Афрыканскія рэчытатывы" не зусім нашай "псеўдапаэткі" Агаты Кормак (маецца на ўвазе найперш псеўданім аўтара).

*Г. Л.*

# І СКАЗАНА БЫЛО...

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9.)*

якая, кажуць, да цэнтра самага крывёю і слязьмі прапітана. І Час тады не гэтак хутка адносіў Яго ў невядомасць, — знікаў непрыемны халадок у грудзях, і дзень доўжыўся доўга-доўга.

Гэтым разам Ён нічога не чуе. Ціха ў свеце, аж закрычаць хочацца. Тады Ён варушыць вуснамі, — ці то просіць, ці то моліцца, як гэта звычайна робяць людзі ў адчаі. Але ніхто не адзываецца.

Маланкаю сярод ночы здагадка блісне — Час аднёс іх гэтак далёка, што яны і не пачулі.

Вінавата сутуліўшы плечы, пасунецца Ён з агароджы, — з прэнтаў звараныя металічныя дзверцы рыпнуць, і Ён аж уздрыгне, як прачнецца, і больш яснымі вачыма зірне наўкола.

Тады між магіл пойдзе да абрывістага берага рачулкі — цераз старыя могілкі, дзе загародак няма каму ставіць і толькі счэсаныя без надпісаў валуны на грудках сведчаць, што тут нехта некалі хаваў кагосьці і, канечне ж, горка плакаў, галасіў, а цяпер нікога з іх няма, ні тых, каго хавалі, ні тых, хто галасіў і плакаў.

Ён пачне думаць пра загадку, якую і яму трэба адгадаць. У той загадцы гаворыцца пра ўсясільны Час, які люляе і пястуе дзяцей неразумных, які суцішвае і лечыць беды гаротных, пакрыўджаных, які карае злых і хцівых — за кожным з жывых Час сочыць пільна, бывае, што людзі яго і не адчуваюць, нават бывае, што яны і забываюць пра яго, а тут раптам — бах, і ён, Час няўмольны, побач, — тады чалавеча кожнай клетачкаю цела адчуваць пачынае, як падхоплівае яго Час і нясе, нясе. І пачынае кідацца няшчасны чалавек туды-сюды, то за грошы ўхопіцца, то за ўладу, хітрэйшыя і жвавейшыя, на машыны і ў самалёты сеўшы, спрабуюць вылузнуцца з плыні Часу, ды — позна, позна, нідзе чалавек не знаходзіць спакою і таму толькі і застаецца чалавеку, што шаптаць самому сабе ў адчаі: "Як жа дні і месяцы мільгаюць. Яны лятуць проста." У той загадцы гаворыцца пра тысячы тысяч цяпер нікому не вядомых, якія некалі плакалі ад крыўды і жалю, кроў лілі ад нянавісці і якіх уладар Час панёс кудысьці. І адгадаць трэба: а куды ж, куды адносіць Час гэтых гаротнікаў, якіх з невядомасці выхоплівае і ў невядомасць выпраўляе, нічагусенькі ўзамен не пакідаючы, бо крыжы і помнікі надмагільныя, курганы і піраміды высотныя — усяго-наўсяго напамін жывым, каб яны ўвесь век думалі пра загадку Часу.

Ля абрыву самага Ён зірне ўніз, дзе шкляная стужка гнецца, — камяні, жвір відзён, толькі рыбы нідзе не відно.

"Электравудамі нават і калючак не пашкадавалі", — падумае ён занадта спакойна. Затым удалеч зірне, дзе дагэтуль усё было вечным і непарушным, мо толькі таму Ён і вяртаўся сюды, каб адчуць гэтую вечнасць, — туды зірне, на чыстую прыбеленую снегам Жыжнеўшчыну, на ёй некалі з бацькам кароў пасвілі, дзе мост над рачулкаю завіс, і яшчэ далей, дзе Высокі Бераг. І тут як хто ў грудзі балюча-балюча пхне — замест лесу на Высокім Беразе дзялянка лысее.

Каб не глядзець на тую дзялянку, Ён тут жа адвернецца і да легкавіка пойдзе — толькі сляды на снезе сведчылі, што бываў Ён тут у дзень апошні.

ІІІ

У двор Ён не пойдзе. Як толькі легкавік прыткнецца ля Дома, з суседняй хаты выйдзе стаптаны, памяты Часам мужчына, гукне радасна:

— Ну здароў-здароў! Пайшлі да мяне. У мяне свежына сягоння. Па першым марозіку забіў. Там у мяне цёпла. Бо што ты адзін у той хаце рабіць будзеш?

— Хапае работы, — Ён застыне ў роздуме: ісці адразу ў Дом, ці — зайсці напачатку да Аднакласніка. Зірне ў мутнаватыя вочы і падзівіцца: як жа ён пастарэў — учарнелыя зморшчаныя шчокі, прагалы між зубоў і да ўсяго — вінаваты позірк, які бывае ў Алкашоў.

Што вытварае з чалавекам Час!

— Ну, пайшлі, пайшлі да мяне, — пачне штурхаць у плечы Аднакласнік і гаварыць будзе ўсё запар, што на язык трапляе, што свежаму чалавеку карціць выказаць, бо адзінота заела:

— А работы, як кажаш, і праўда хапае. У нас яе поўна, у дзве змены, і ў калгасе і дома, прадыхнуць некалі з-за гэтай работы. Работа — не воўк, у лес не бяжыць. Ад работы і коні дохнуць.

І тут Ён уклініцца ў маналог Аднакласніка:

— А конь здаровы калёсы цягае. Мы на тыя калёсы сядзем, дык ён і не пачуе, яму ўсё роўна будзе, сядзім мы на тых калёсах, ці не сядзім.

Аднакласнік як ішоў, так і застыне, бы спатыкнецца, паверне ўчарнелы ад работы твар:

— Якія калёсы? Пра якога каня пляцеш? Іх цяпер у калгасе пяць штук засталося.

— Помніш, малымі ў лес хадзілі, шукалі сіваронку з пер'ем залатым? А за ракою, дзе некалі плаціна была, на Высокім Беразе заблудзілі. Ваўка тады збаяліся, казалі, што воўк не толькі нас, а і каня можа з'есці. Тады румзалі гучна і мацярок клікалі.

З надзеяю пачне ўзірацца ў пацямнелага Аднакласніка. І тут, як віхор чорна-шэры, мільгане перад ім тое зубастае і агромністае, што хутчэй ветру носіцца ў балоце топкім, па выгане за вёскаю, вобмігам падхопліваючы качанят, гусей крыклівых, авечак дурнаватых, чаго гэтак баяцца сабакі, якочуць, аж заходзяцца, піліпаўскай ноччу, ланцугі рвуць, блізкую бяду чуючы, але ж як яны не якочуць, як не рвуцца з ланцугоў, ды пад раніцу ад тых сабак нідзе нічога не застаецца, толькі і ўгледзіш ашыйнікі, да ланцугоў прывязаныя; што на Высокім Беразе між дрэў мільгае і ў любы міг стрэнуць можаш, і тады ўсё, кранты, тады паратунак адзіны, калі на калматую елку паспееш ускочыць, а яно далей панясецца і недзе там, далёка-далёка, на Жыжнеўшчыне ці на лузе чыстым, калі захоча, дык і каня зглумздае запраста, а ты на елцы седзячы, дрыжучы і калоцячыся, толькі і пачуеш, як штосьці за тоўстымі соснамі хрумсціць і патрэсквае — то ж апошнія конскія костачкі даядаюцца.

— А-а, — абыякава махне рукою Аднакласнік, як махаў некалі, і павернецца спіною. — Малыя былі, дурныя. Ды і лесу таго няма. Я сам з хлопцамі валіў яго. Шведкаю.

— І колькі ж заплацілі за работу тую? — само сабою з грудзей вырвецца.

— А-а, — спіна гайдаецца перад вачыма і рука дугою ў паветры халодным і чыстым, першым снегам, бы слязьмі, вымытым, — якая цяпер плата. Тры мільёны абяцалі даць праз месяц. Гэта як некалі трыццаць капеек было.

— Залатых ці сярэбраных? — пытае Ён, але Аднакласніка Час аднёс гэтак далёка, што ён і не чуе, сваім заняты:

— Што цяпер за той мільён купіш? Бутэльку чарніла і тую ці купіш. Павесіцца, а не жыць з такімі заробкамі.

— На асіне лепей за ўсё палучыцца. Адзін так і зрабіў. Мабыць, надта мала заплацілі.

— І даўно ён такое адчыбучыў? — спытае Аднакласнік і тут жа разважаць пачне. — Мабыць, ён з Апазіцыі быў. Тыя вечна нешта прыдумаюць, то — забастоўкі, то — галадоўкі, а гэты, бач, да чаго дадумаўся.

— Даўнавата, — адгукнецца Ён і нечакана на Высокі Бераг перанясецца, апынецца ля высокай-высокай, да неба самага, сасонкі. Ля тоўстага, удвух не абхопіш, камля таўкуцца мужчыны з сякерамі, адзін са шведкаю. От жа дзіўна — мужчыны не бачаць Яго, а Ён бачыць усё і чуе ўсё. Задзіраючы галовы, зырачыся на карычневатыя тоўстыя галіны, што счапіліся з галінамі суседніх сасонак, на маленечкаю вяршалінку, што паціху варушыцца пад нябачным ветрам, мужчыны раяцца, а потым адзін, жвавейшы, са шведкаю ў руках, кажа: "Вунь туды валіць будзем, — і рашуча носам шведкі на чысты прагал торкне, — а іначай завісне, суседнія сасонкі не дадуць упасці".

І тут жа мужчына прымецца за работу — падыдзе ўпрытык да камля, паставіць на зямлю шведку і рыўком мазолістай далоні старцер ірване на сябе. "Вур-ррр", — незадаволена вуркатне шведка і зацiхне. "Не заводзіцца, не хоча заводзіцца, — скажа нехта з Мужчын і параіць: — Падсос зрабі, бензінчыку дай ды — мацней ірвані". Зноўку мужчына рване старцер.. "Грр-ррр", — загыркаціць разбуджаная шведка і тут жа завядзецца. На Высокім Беразе стане ціха-ціха: ні дзятла, ні сініцы — нікога не пачуеш, здаецца, нават мурашы і тыя пазашываюцца ў шэры мурашнік, толькі адно злое ррр-ррр будзе з трэскатам разносіцца між сосен. З гыркатаннем шведка пачне ўгрызацца ў камель, крышачы тоўстую шэра-карычневую кару, выплёўваючы белае пілавінне на зялёны чарнічнік. І, здаецца, пабольшае ўвышыні вецер — вяршаліны суседніх сасонак загайдаюцца, як і ў гэтай сасонкі, але стаяць яна будзе крэпка, толькі лёгкае трымценне будзе адчувацца, калі рукою да кары дакранешся. Падрэзаўшы сасонку з аднаго боку, пакінуўшы ў камлі клінавідны надрэз, мужчына пяройдзе на другі бок камля, і зноў шведка будзе ўгрызацца ў дзерава, гыркаючы на ўвесь свет то мацней, то слабей: ррр-ыы-рры Мужчыны будуць пільна глядзець на вяршаліну сасонкі, нарэшце адзін скажа: "Пайшла, здаецца" Тут жа і астатнія падхопяць: "Пайшла, пайшла Убірай шведку, а то — заціснe. Ды і сам адыходзь, не то — камлём гахне і — кранты на месцы будуць. Такое ў лесе часцяком бывае". Чалавек са шведкаю паслухмяна адыдзе ад камля, несучы між ног цяпер спакойную шведку, і таксама задзярэ галаву, зірне туды, дзе вяршаліна сасонкі, чапляючыся галінамі за галіны суседніх сасонак, паволі, нехаця хіліцца ўніз. Хутчэй, хутчэй, — з трэскам і шорахам вяршаліна нясецца ўніз, да чарнічніка, і, нарэшце, падняўшы вецер, з гучным бабаханнем сасонка падае, — камель і праўда падскоквае ўгору, і калі б чалавек загадзя не адышоўся, прыбіў бы насмерць. Галлё сасонкі гайдаецца туды-сюды, туды-сюды, а потым нікне да прымятага чарнічніка. Мужчыны ўпрытык падыдуць да свежага пня, паглядзяць на ружаватыя кольцы, — на зрэзе дзерава на вачах набухае і слязіцца залацістымі пахкімі кроплямі, нехта скажа: "Ну во і завалілі сасонку. До-обрая сасонка! Колькі ж ён годзікаў было?"

Мабыць, Час углыб зацягнуў, дзе не толькі Часу, а і Прасторы няма, мо нават у тую міжзорную чорную дзірку Яго зацягнула, куды бязгучна і бясследна ўсмоктваецца ўсё жывое і мёртвае, — а потым Час зліставаўся і, калі Ён на паверхню вынырне, найперш падумае не пра Антысвет, паяднаны з гэтым Светам дзіркай чорнаю, а пра лёгкі гусіны паплавок, бацькам зроблены, — некалі той паплавок нерухома ляжаў на гладкай завадзі ля Берага Высокага, там, дзе сосны і елкі хіліся над абрывам, магутнымі каранямі з жаўцяку вытыркаліся. Наструнены, Ён вачэй не зводзіў з паплаўка, чакаючы, калі той знікне ў невымернай чорнай завадзі, як растворыцца ў міжзорнай прасторы, дзе існуе загадкавае жыццё, дзе ўладарыць вялікая-вялікая рыбіна і, канечне ж, яе яшчэ ніхто з жывых не бачыў, а тым болей — ніхто не злавіў, і кожны раз, калі знікаў паплавок, калі дрыжачымі рукамі. Ён шморгаў угору гнуткае вудзільна, ведаў, што гэта яна, вялікая-вялікая рыбіна, падплывала да кручка і нават чарвяка каштавала, бо хто ж, апроч яе, мог цягнуць углыб гусіны паплавок?

І тады плакаць хацелася, і шаптаў Ён тады не пра рыбіну, а пра нешта іншае, нашмат важнейшае: "Сарвалася, сарвалася."

Сэрца будзе татахаць, трапятацца, са здзіўленнем убачыць сябе ў хаце: на покуці, дзе некалі ікона вісела, Новая Біблія грыміць і балбоча, на стале пачатая бутэлька гарэлкі, свежаніна на талерцы, хлеб, яшчэ нешта, сам чамусьці ў руках налітую чарку трымае.

— Вот ты не чуеш, як глухі ўсё роўна, каторы раз кажу: машынамі яго ў Пруды вязуць. Там лесапілку імпартную паставілі. Еўравагонку гоняць з рання да змяркання. Яе толькі за валюту прадаюць, нашым адходы застаюцца. Пад кантролем усё страшэнным. Палітык лапу на гэта дзела паклаў. Сам панімаць павінен, валюта нам трэба, без яе мы гегнемся, — Аднакласнік ківае перад носам налітай чаркаю, — Ну, давай, за сустрэчу.

Усё тая ж галава прарока Вядучага, усё той жа хахмач, усё той жа кліп мільгаціць бессаромна вісклівa аголеным, усё тыя ж парашкі, пракладкі, жвачкі, усё тое ж траханне і бабаханне, — уся тая трасца, якая даастатку забівае галаву, да ачмурэння поўнага, быццам Ён і не выязджаў нікуды.

— Вот скажы мне, — кульнуўшы чарку, будзе насядаць Аднакласнік і чамусьці, як на суддзю вышэйшага і адзінага, кіўне галавою на балбатуна чарговага, які побач раіць, як лепей жыццё наладзіць, — што гэтай заразе Апазіцыі ад Палітыка трэба? Каб не гэта Апазіцыя, дык ба мы і зажылі як людзі белыя. Есць і есць чалавека поедам. І тое ёй дрэнна, і гэта няправільна. А самі што могуць? Вот выбары скора, ты за каго галаснеш, прызнайся чэсна? Мы —дык за па Палітыка, ён хоць парадак навядзе ў бардаку гэтым.

Ён паціснe плячыма — і праўда, не ведае, за каго будзе галасаваць. Бо на выбарах выбарам ніякім і не пахне, бо не ўчора і не сёння ўсё пачалося, мо тады яшчэ, калі парада была мудрая падстаўляць пад аплявухі то правую то левую шчаку, а мо і яшчэ раней, калі чалавек першага Раба заарканіў і тут жа Работа паявілася; спачатку Раба смактала, а пазней цераз грошы на ўсіх перакінулася, так што нечага ламаць галаву пра выбары нейкія, лепей шкадаваць усіх запар і таго ж Палітыка гаротнага: давялі, бедалагу, адзін без аховы на людзях паказацца не можа, у лімузіне браніраваным хаваецца, начаваць уцякае за горад, дзе плот высачэнны, вакол якога аўчаркі і спецназаўцы адно за адным гойсаюць; ды і Прыкарытнікаў шкадаваць трэба, бо змушаны грызці адно аднаго, загрызаць насмерць ля карыта цеснага, дзе грошы пасыпаны, дзе пасады і званні трапляюцца; Прыкарытнікам наогул да лямпачкі, якому Палітыку служыць, абы ад карыта не адцёрлі; Апазіцыю тым болей шкада; гадуе ў нетрах сваіх чарговага

Палітыка, а за гэта яе лупцавалі, лупцуюць і будуць лупцаваць, малаціць, калашмаціць дубінкамі, за краты садзіць, лідэры якой па адным сярод белага дня знікалі і будуць знікаць, як ні шукай, ды ніякімі аўчаркамі, ніякім інтэрполам тых лідэраў не знойдзеш, нават целы іхнія не знойдзеш, бо насапраўды іх тайком выпраўляюць у міжзорнае падарожжа, адкуль яны, згодна парадоксу блізнят, ні кропелькі не пастарэўшы, праз дзесяцігоддзі, калі ўсё перафарбуецца, калі чырвоныя стануць белымі, а белыя чырвонымі, вернуцца і застынуць помнікамі на гарадскіх вуліцах, запартрэцяцца ў школьных падручніках, зірнуць з мемарыяльных дошак на наіўнае маладое пакаленне, якому хоцькі-не хоцькі ды выбіраць давядзецца, ці туды, да Прыкарытнікаў, падавацца, ці да вечна бітай Апазіцыі; так што калі ўведаеш усё гэта, то такі адчай навальваецца, што і праўда, можа, лепей да вечна шчаслівых Алкашоў падавацца, якія, зранку чарку кульнуўшы, усю работу робяць, нават і не робяць, а проста работа ад іх адступаецца і зверам накідваецца на ўсіх, бо яна, работа, усімі вяршыць, а не выбары нейкія.

Адставіць недапітую чарку, казаць будзе:

— Дзякуй за свежыну. Я ўсё-ткі Дамоў пайду.

— Канечне, я панімаю... Дом, Бацькаўшчына, усё такое... Толькі там надта не баўся. Вяртайся. Мы сягоння лазеньку пратопім, а пасля па чарачцы гахнем. Целявізар паглядзім, як і ўсе культурныя людзі...

У Доме холадна.

Ён будзе глядзець на разбураную печ, на адарваныя ад лагаў падгнілыя дошкі, на столь, якую пачаў падбіваць польскім пластыкам, на белую ракавіну ў куце, на кран водаправодны — каторы год беражэ Дом ад Часу ўсясільнага, бо Дом у кожнага адзін, а ўсё астатняе — толькі напамін пра Дом, які пакідаецца з вялікага розуму і які потым шукаецца ў інтэрнатах шумных, у бетонных шматпавярхоўках, на ўчастках дачных ды, як ні націрай паркет у клетухах цесных, які ні цягай бярвенне і цэглу на падмурак бетонны, ды другога Дома ты не знойдзеш і не пабудуеш, — нутром адчуваеш здраду Дому, Бацькаўшчыне, нічога не адчуваюць толькі Набрыдкі, якія дзеля таго на свет і паяўляюцца, каб гойсаць па чужых Дамах, Бацькаўшчынах...

Холадна і стыла ў Доме пакінутым. Тое цёмнае, гідкае, чаго так і не пазбавіўся, клупціцца ў грудзях, аж ванітаваць хочацца.

Як і не дае спакою ліпкае павуцінне — дыхаць заклалае.

"Трэба нечым заняць сябе, тады лягчэй стане", — і тут жа возьме ў рукі тоўсты цвік. Сотку. Гэтай соткаю прыбіваюцца дошкі да лагаў. Паглядзіць на дошкі, на чорныя лагі і нечакана здрадлівае выплыве: а навошта?

Навошта, калі сягоння не пачуў нічога?

Хоць бы голас падалі!

Як жа балюча ў гэтым бязмерным і лагічным, аплеценым ліпкім, што накідваецца штовечар на цела, ад чаго блякнуць вочы, моршчыцца-сохне скура!

Усё застыла. Здаецца, нават Час застыў. Трэба, абавязкова трэба на нешта рашыцца, бо нельга ж жыць у застылым Часе. Каб і хацеў Ён жыць у застылым Часе — не выжыве

Асцярожна вастрыём соткі Ён будзе разрываць блакітную нітачку на запясці. І тут жа палягчэе — цёмнае, гідкае, што ля горла душыла, што на скроні балюча ціснула, пачне выцякаць на белую скуру цёмна-карычнева.

"Замыць трэба", — ужо і не Ён, а Нехта разумнейшы дасць параду, і Ён паслухмяны пойдзе да белай ракавіны, адкруціць галоўку крана і, падставіўшы руку пад ваду ледзяную, глядзець будзе, як ружаватая вада цячэ ў ракавіну, думаць пачне, як па трубах пластмасавых яно сплывае ўсё ніжэй і ніжэй, туды, дзе зямля чорная.

Той Нехта разумны зноў супакоіць: "Вернешся, пачакай трошкі... Усе вяртаюцца і ты таксама вернешся..." І тады ён адчуе, як штосьці зрушылася ў свеце — то Час зноўку заструменіць у стомленым целе, асцярожна памалу-памалу панясе яго туды, дзе ў невымернай глыбокай завадзі плавае вялікая-вялікая рыбіна, дзе сярод сосен мільгане нешта зубастае і страшнае, дзе вось-вось Ён пачуць павінен: "Міленькі ты мой, вазьмі мяне з сабой..." — і яшчэ далей панясе Яго Час — дзе стыласць пад вячэрнім падсіненым небам, дзе вось-вось празвінець павінна працяжнае і далёкае: "Дааа-аамоў іідзіі... Вяаачэээраааа стынеее..."

Стане шкада нечага надта важнага, што Ён ці то страціў, ці то не паспеў спазнаць — таго, што пэўна ж ёсць у гэтым свеце, без чаго чалавеку ніколі не выжыць. А тады ўжо, як і належыць першая сляза паявіцца на прывяленых Часам, нечакана пабляднелых, бы снегам прысыпаных, халаднаватых шчоках...

# Валерый МАСЛЮК

Беларускае тэатральнае мастацтва панесла цяжкую страту. 26 жніўня 2001 года на 49-годдзе жыцця памёр лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, рэжысёр-пастаноўшчык Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Валерый Васільевіч Маслюк.

В. Маслюк нарадзіўся 30 сакавіка 1953 года ў вёсцы Ропна Полацкага раёна Віцебскай вобласці. Прафесійную падрыхтоўку атрымаў у Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, які скончыў у 1979 годзе. З 1979 па 1981 г. працаваў рэжысёрам у тэатры імя Якуба Коласа. Вызначыўся як прафесіянальны, тонкі рэжысёр, які цудоўна адчуваў драматургічны матэрыял, выдатна працаваў з акцёрамі. Найбольш значныя работы гэтага перыяду: "Брыльянт" Е. Пшэздзецкага, "Клеменс" К. Саі, "Стары дом" А. Казанцава.



У 1981 годзе запрошаны на пасаду галоўнага рэжысёра Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра. У гэты час паставіў значныя спектаклі, якія сталі яркай старонкай у яго творчым жыцці: "Візіт старой дамы" Ф. Дзюрэнмата, "Любоў, джаз і чорт" Ю. Грушаса, "Тутэйшыя" Я. Купалы.

З 1983 па 1992 г. узначальваў мастацкае кіраўніцтва Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Максіма Горкага. Сярод рэжысёрскіх работ гэтага перыяду: "Начныя карлікі і Антыгона" Л. Разумоўскай, "Гамлет" У. Шэкспіра, "Майстры" М. Булгакава. Асабліва значнай была работа над спектаклем "Знак бяды" В. Быкава. За пастаноўку гэтага спектакля В. Маслюк быў удастоены Дзяржаўнай прэміі Беларусі за 1984 г.

З 1993 па 1997 г. працаваў мастацкім кіраўніком, а з 1997 года — рэжысёрам-пастаноўшчыкам Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Найбольш значныя рэжысёрскія работы на коласаўскай сцэне: "Кароль Лір" У. Шэкспіра, "Жаніцьба" М. Гогаля, "Пакахай мяне, салдацік" В. Быкава, "Сола для гадзінніка з боем" О. Заграднікa, "Пад сонцам", "Кацігарошак" паводле ўласных п'ес.

Сваёй творчасцю В. Маслюк імкнуўся паказаць чалавека ў яго шматбаковых праявах.

Ад нас пайшоў чалавек шчырага сэрца, добрай душы, выдатны рэжысёр. Памяць пра Валерыя Васільевіча Маслюка назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь,**

**ГА "Беларускі саюз тэатральных дзеячаў"**

# Уладзімір Дубоўка ў жыцці

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)*

выкарыстаць усе шансы, якія бачыліся ў такой палітыцы. Сцвярджаць беларускасць, ствараць сваю культуру яны гатовы былі і пад кіраўніцтвам кампартыі, калі яна давала хоць нейкую мажлівасць для дзейнасці ў гэтым кірунку.

Сама камуністычная ідэя, яшчэ не скампраметаваная жахлівай бальшавіцкай практыкай, у многім ганебным засакрэчанай ці прыкрытай дэмагогіяй, тады мела немалую прыцягальнасць, бо і утапічнасць гэтай ідэі не ўсведамлялася, прынамсі, шырокімі коламі. Мільёны людзей былі падмануты абяцаннямі блізкай зіхоткай будучыні і згаджаліся дзеля яе на любыя ахвяры. Таму і Дубоўка ў сваім самым славутым вершы "О Беларусь, мая шыпшына" натхнёна пісаў, звяртаючыся да роднай краіны: "Ніколі пройме з дзікім ветрам // не развіваць дзявочых кос. // Імкнешся да Камуны Свету, // каб радасць красавала скрозь".

Верш датуецца 1925 годам. Гэта яшчэ перыяд беларусізацыі. Але яе часовасць паэт, мусіць, ужо прадчуваў. Іначай наўрад ці паявіўся б ужо ў наступным годзе верш "За ўсе краі, за ўсе народы свету". Ды і пасля яго публікацыі гімны "Камуне Свету" ў прызначаных для савецкага друку творах паэта мільгаюць зноў і зноў (вершы "Мы ўсе ў большасці ранеты", "Летуценнем пройдзем мы над краем", "Вядзі мяне, як і вяло ты, сэрца" і інш.).

Што было за гэтым? Знарочыстая маскіроўка, каб ахоўнікам цяжэй было ўстанавіць, што Янка Крывічанін — Дубоўкаў псеўданім? А можа, своеасаблівая раздвоенасць пачуццяў? Хутчэй за ўсё меркаванне: "Камуна Свету" — добра, але дайце магчымасць жыць і беларусам як народу, як нацыі, не перашкаджайце яму ствараць родную культуру. І вельмі натуральным у такім кантэксце выглядае ўзмацненне апазіцыйных настрояў у яршыстага Дубоўкі, калі пачынаецца ўжо самы сапраўдны пагром беларускай культуры. Гэтыя настроі к канцу 20-х гадоў дастаткова выразна выяўляюцца і ў падпісаных уласным прозвішчам рэчах паэта ("Пярэсты букет" і іншыя творы).

Вярнуўшыся да літаратурнай працы пасля зняволення, Дубоўка ўжо не бунтаваў, ва ўсякім разе адкрыта — ніколі і ніколькі. Мастаком ён заставаўся і стварыў яшчэ нямала добрых і выдатных твораў, але, як я казаў раней, уладу ўжо не чапаў. Звяртаючыся да перажытага ў гулагаўскія часы ў сваіх цудоўных абразках "Пялёсткі", ён абмінаў усе дэталі, па якіх можна ўстанавіць, калі адбываўся той ці іншы эпізод. Рабілася гэта, каб да абразкоў не чаплялася цэнзура. Але ж і тады, калі пра перажытае ў гады зняволення і поўнай бяспраўнасці можна было пісаць адкрыта, Дубоўка ў дэталі не ўдаваўся, маўляў, "нам — некалі са смуткам знацца". Так з яўна перабольшаным аптымізмам закончыў навучаны горкім вопытам і ўжо вельмі асцярожны паэт свой аўтабіяграфічны нарыс з характэрнай назвай "Сярод людзей добрых". А ён жа публікаваўся ў 1963 годзе, калі гулагаўская тэма яшчэ не была забароненай.

Цяпер можна пачуць, што і ў Дубоўкавым праслаўленні кампартыі была скрытая апазіцыйнасць. Ну, якую апазіцыйнасць можна вычытаць у радках: "Толькі наперад і толькі няспынна // пойдзе Савецкая наша Айчына, // перамагаючы злыя напасці — // да Камунізма, да светлага шчасця!" Гэта дзяжурныя радкі з "Дактылічных рытмаў" (1966). А як адыходзіў паэт ад духу свайго кароннага верша "О Беларусь мая шыпшына", ствараючы дагодлівую паралель да яго ў 1958 годзе: "О Беларусь, лясная ружа, // зялёны ліст, чырвоны цвет! // Да камунізма крокам мужным // ты пракладаеш вечны след". І яшчэ там жа: "У грамадзе савецкай дружнай // знайшла ты свой шчаслівы цвет". Мара, якая аказалася ўвогуле неажыццявімай, падаецца як здзейснены факт!

Такая адпісачная паэзія была зусім не выклікам бальшавіцкай сістэме, няхай сабе і скрытым, прыхаваным у падтэксце (дзе тут такі падтэкст?), а працавала на яе, на тую сістэму. Бо ўладам не так важна, з душэўным хваляваннем ці без яго пісаў аўтар. Ім дастаткова было публічнай падтрымкі, якую давала надрукаванае слова вядомага паэта. Дубоўка выдатна разумеў гэта, але мусіў ісці на такі кампраміс з сістэмай, бесчалавечнасць якой ён ужо ў поўнай меры пазнаў на сабе. Так ён плаціў за магчымасць зноў працаваць у літаратуры і, адкупляючыся адпісачнай дзяжурнасцю, патрэбнай уладам рыторыкай, зноў ствараць сапраўдныя творы.

Ні ў зняволенні, ні пасля яго ў Дубоўкі ніякай веры ў савецкі лад ужо не было. Ён, паўтаруся, і ў трываласці хрушчоўскіх перамен сумняваўся і насцярожана чакаў, ці не замятуць зноў, як замялі ў 1930-м, спачатку на пяць гадоў высылкі, хоць у цывілізаваных краінах толькі за апазіцыйныя настроі нікога не судзяць, а потым дабаўлялі тэрміны зняволення ўжо і за нішто, прычым дабаўкі станавіліся раз за разам ўсё большыя: 2 гады, затым 10, затым і 25. Апошнія, дзякуй Богу і Хрушчову, паэт адзваніў у выгнанні ўжо няпоўнасцю.

Пры ўсім сваім гуманізме Дубоўка быў расчараваны ў многіх пісьменніках, некаторых блізкіх людзях. І небеспадстаўна. Бо яго малодшы брат, які выступаў у літаратуры пад прозвішчам Язэпа Вазёрнага, публікаваў супроць паэта вершы (потым ён быў закатаваны бальшавікамі). Старэйшы брат адмовіўся ад Уладзіміра Мікалаевіча, як адмовіўся і Ю. Бярозка, які лічыўся Дубоўкавым сябрам і некалі напісаў пра яго вельмі добры артыкул (літаратурны партрэт).

А як адхрышчваліся ад Дубоўкі, Пушчы, Бабарэкі і іншых арыштаваных узвышаўцаў іхнія былыя сябры: Крапіва і Чорны, Бядуля і Глебка, Дарожны і Кляшторны, Мрый і Калюга. Вядома, так яны ратаваліся самі, хоць не ўсім гэта ўдалося, бо бальшавіцкая машына знішчэння працавала бязлітасна.

"Юды!!!" — такую заўвагу мне давялося бачыць у бібліятэчным экземпляры часопіса "Узвышша" (у былой Ленінцы) на апублікаванай там рэзалюцыі згуртавання, у якой яшчэ не пасаджаныя за краты ўзвышаўцы (палова з іх потым загіне ў ГУЛАГу) асуджалі сваіх арыштаваных таварышаў і патрабавалі для іх суровай кары. Абураны крык нейчай спагадлівай душы адрасаваўся, вядома ж, не арыштаваным, а тым, хто ад іх адмяжоўваўся.

Дубоўка бязмежна любіў Беларусь. Усё аддаў дзеля яе. Але зноў садзіцца не хацеў. І таму ўжо без пратэсту аддаваў тую даніну афіцыяльшчыне, якой ад яго патрабавалі. А боль, вялікі, несціханы боль з-за таго, што яму не далі здзейсніць усё, на што ён быў здатны, жыў у ягонай душы, толькі знарок хаваўся за падкрэсленую аптымістычнасць, якая, як закляцце, ахоўны сродак педаліравалася частымі згадкамі пра яе.

А зрэдку той боль і прарываўся. То ў радках пра "пакрышаны талент", якія тут жа аспрэчваліся, то ў перакладах твораў Шэкспіра і Байрана. Мяне ўразіла, як чытаў Дубоўка свае пераклады шэкспіраўскіх санетаў. "Выходзіць так, што праўды ў нас няма". "Найчысцейшай праўды зняважанне". Ісціна, "якой затулен рот, і зло, што верхаводзіць над усімі". "Душа мая, зямлі ўсёй асяродак, // Чаму прыгон ты церпіш над сабой?!" Усё гэта — Шэкспір. Але чытаў яго паэт так, што атрымлівалася, нібыта ён гаворыць сам і пра сябе, пра свае пакуты, пра сваё прыніжэнне ўладай, якая і пра зняволенне прымушала пісаць як пра нейкае незразумелае падарожжа па краіне — ад Чувашыі да Краснаярскага краю і Далёкага Усходу. Тут, у перакладах, Дубоўка вострых намёкаў сапраўды не баяўся, бо Шэкспір быў надзейным абаронцам.

Словам, душою Дубоўка не скарыўся. Але астатак свайго жыцця ён хацеў дажыць у нармальных умовах. "Хачу крыху пажыць спакойна", — напісаў ён у апошнім сваім вершы. Нам папракаць яго за гэта? Крый Божа. Гутарка толькі пра тое, што робіць несвабода з людзьмі, з самымі таленавітымі ў першую чаргу, як яна калі і не знішчае іх зусім, дык абкрадвае і праз прамое зняволенне, і праз немагчымасць на поўную сілу выявіць сябе. А ў канчатковым выніку гэта — і абкрадванне цэлага народа, усяго чалавецтва.

**Дзмітрый БУГАЁЎ**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь смуткуе ў сувязі заўчаснай смерці лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі рэжысёра-пастаноўшчыка Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Валерыя Васільевіча МАСЛЮКА і выказвае спачуванне родным, блізкім і сябрам нябожчыка.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Ніне МАЦЯШ з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці бацькі.**

**Смуткуем разам з выдатнай паэтэсай і перакладчыцай Нінай МАЦЯШ у сувязі са смерцю яе бацькі.**

**Беларускі ПЭН-цэнтр**

# Шукайце жанчыну,

## або Штрыхі да партрэта Гелены МАЕЎСКАЙ

***5 студзеня 1900 года ў ціхім на той час Віцебску сабралася нешматлікае кола блізкіх і знаёмых, каб правесці ў апошнюю дарогу сталага веку кабету. Хаця пахаванне Гелены Пюро-Дэмбінскай (у дзявоцтве Маеўскай) не было колькі-небудзь значнай падзеяй нават у межах правінцыйнага горада, яе бурлівая, багатая на калізіі маладосць вартая ўвагі нашых сучаснікаў. Любоў да тэатра, палкае каханне, самаахвярны патрыятызм - вось тыя пачуцці, што прадвызначылі яе лёс, які так ці інакш быў зніťаваны з Беларуссю.***

Гелена нарадзілася 28 мая 1828 года ў Вялікапольшчы. Незаможнасць бацькоў прымушала яе з малалецтва спадзявацца толькі на ўласныя сілы. Скончыўшы Драматычную школу ў Варшаве, яна ўжо ў 1843 годзе пачынае працаваць у віленскім тэатры. Сцэнічныя здольнасці хутка дазволілі юнай акторцы заваяваць папулярнасць і выконваць галоўныя ролі ў спектаклях, у тым ліку шэкспіраўскай Джульеты, Соф'і ў "Недаростку" Фанвізіна і інш. Аднак паспяховая кар'ера раптоўна была перапынена. У 1845 годзе Гелена пакідае сцэну і выходзіць замуж за Адама Кіркора, віленскага чыноўніка і не вельмі ўдачлівага выдаўца альманахаў "Radegast" і "Pamietniki Umyslowe", аматара тэатра і новай тады навукі археалогіі. Шлюб з акторкай не вітаўся ў тагачасным так званым прыстойным грамадстве, якое нейкі час ігнаравала маладую пару. Наступныя восем гадоў тэмпераментная натура экзальтаванай жанчыны мусіла задавальняцца будзённымі сямейнымі клопатамі.

Але ў 1853 годзе муж знаёміцца і хутка зблiжаецца з Людвікам Кандратовічам (Уладзіславам Сыракомлем). Імклівая знаёмства перарастае ў сяброўства і Кіркор схіляе паэта да напісання паэмы "Маргер", прысвечанай трагічнай старонцы гісторыі ВКЛ. Інтэнсіўная праца над гэтым творам забрала шмат сіл, здароўе аўтара пахіснулася, і ўвосень 1854 года ён на паўтара месяца перабіраецца са свайго фальварка Барэйкаўшчына ў Вільню, дзе жыве ў доме Кіркора пад наглядам гарадскіх лекараў і пільным апякунствам Гелены. У гэты час ён напісаў тры жартоўныя эпітафіі.

*Для сябе:*\
*Творцу "Маргера"*\
*хто знаў!?*\
*Зрабіў добра, што сканаў.*\
*Цішыня ў гробе пануе,*\
*Крыкаў жонкі ён не чуе.*

*Для Кіркора:*\
*Тут ляжыць археолаг,*\
*Сам сабе зайздросціць,*\
*Што не можа выкапаць*\
*Уласныя косці!*

*Для Гелены:*\
*Тут ляжыць пекнае цела!*\
*Баламуцтва - яе дзела.*\
*Усе святыя ўцякайце,*\
*Бо і вас спакусіць, знайце.*

**(пераклад з польскай наш. - І. З.)**

Напэўна, нечакана для сябе Сыракомля ўбачыў у маладой жанчыне нешта большае чым проста сяструміласэрнасці ці адну з прыхільніц свайго таленту. Частыя канфлікты паэта з жонкай Паўлінай, якую сучаснікі характарызавалі як кабету добрую, але надзвычай празаічную, нярэдкія і працяглыя камандзіроўкі Кіркора, адсутнасць у кіркораўскай сям'і дзяцей, нарэшце, жаданне Гелены вырвацца з атмасферы будзёншчыны - вось тыя акалічнасці, што спрыялі нараджэнню палкага кахання. Гэта не быў банальны адзюльтэр, з якім, зрэшты, падмануты муж зміраўся як з наканаванай непазбежнасцю, гэта быў выбух пачуцця, у чым пераконваюць далейшыя падзеі.

Як можна пераканацца найперш з прыватнай перапіскі, Сыракомля ў пачатку 1857 года пакідае сям'ю, з Барэйкаўшчыны перабіраецца ў Вільню, а ў сярэдзіне таго ж года Гелена кідае Кіркора, а з ім разам і забяспечанае ўладкаванае жыццё. Такія рашучыя крокі закаханых выклікалі неверагодны скандал. Любоўныя перыпетыі самага папулярнага ў краі паэта і сямейная драма вядомага выдаўца альманаха "Teka Wilenska" Кіркора сталі падзеяй нумар адзін у свеце. Публіка, зразумела, стала на бок пакінутых мужа і жонкі, шкадавала Сыракомлевых дзяцей, што не замінала распаўсюджванню брудных плётак. Закаханым быў аб'яўлены неафіцыйны байкот, перад імі зачыніліся дзверы дамоў нават блізкіх знаёмых. З Сыракомлем парвалі адносіны даўнія сябры Станіслаў Манюшка і Юзаф Крашэўскі. Жывучы з літаратурнай працы, ён ледзь зводзіў канцы з канцамі. Жорсткае асуджэнне віленскага грамадства прымусіла Гелену пераехаць у Кракаў да аўдавелай маці. І ўжо з лютага 1858 года, вярнуўшыся на сцэну, яна не без поспеху выступала ў галоўных ролях кракаўскага тэатра, які гастраляваў у многіх польскіх гарадах. Сыракомля ж заставаўся ў Вільні і быў нібы ў здранцвенні. Праз нейкі час ён паехаў за каханай і спаткаўся з ёю ў Познані ўлетку 1858 года. Гэта выклікала новую хвалю плётак і абурэння, асабліва ў клерыкальных колах. Паэт ехаў услед за Маеўскай па гастрольным маршруце кракаўскага тэатра, калі атрымаў паведамленне пра цяжкую хваробу бацькі. Гелена, нібы адчуваючы фатальны для іх пачуцця вынік яго ад'езду на радзіму, усімі спосабамі імкнулася адтэрмінаваць расстанне - нават ці не наўмысна параніла сябе бутафорскім стылетам у час спектакля. І ўсё ж Сыракомля мусіў вяртацца ў край, дзе ўжо не застаў бацьку ў жывых. Згубіўшы роднага чалавека, паэт востра адчуваў сваю самотнасць, сумаваў, пісаў журботныя, поўныя скаргаў лісты да каханай, марыў і прагнуў вярнуцца да яе, але не мог адшукаць патрэбных сродкаў на паездку. Гелена ж мучылася і марна чакала. З часам яе адказы пачалі прыходзіць усё радзей, тон іх станавіўся халаднейшым, пакуль, нарэшце, яна адкрыта не напісала: "Ты для мяне быў засціў увесь свет, але калі цябе няма, я мушу шукаць заменніка". Сыракомля шчыра абурыўся, па яго выразе, "абрыдлым матэрыялізмам". У канцы верасня 1858 года ён вярнуўся ў Барэйкаўшчыну.

Пасля таго як увідавочніўся іх раман, на працягу многіх месяцаў паэт перыядычна перажываў цяжкія псіхалагічныя крызісы, шмат піў, упадаў у дэпрэсію, з якой канчаткова не выйшаў аж да смерці ў верасні 1862 года. У адным з лістоў ён спавядаўся сябру: "Колькі я мушу знесці ўдараў, цярпець болю, сапраўднага катавання на гэтай глебе - цяжка апісаць. У хворым сэрцы, у збалелай галаве такі разлад, што не ў стане ўжыць нават самыя дзейсныя лекі ад пакутаў душы - працу. Пяро выпадае з рук".

Банальная ісціна заключаецца ў тым, што мінуўшчына не церпіць умоўнага ладу. Яна - здзейсненая дадзенасць, якую немагчыма, нешта выправіўшы, прайграць ці пражыць наноў. Аднак часам здараецца, што ў гісторыі недаравальна не ўлічваецца суб'ектыўны фактар. А на яго заўсёды небяспечна закрываць вочы, у тым ліку і ў сучаснасці. Раман Сыракомлі з Геленай, пэўна, меў ускосны ўплыў і на развіццё беларускай літаратуры. Першы зборнік вершаў Вінцэся Каратынскага "Чым хата багата, тым рада" з прадмовай Сыракомлі быў выдадзены ў канцы 1856 года. Ён складаўся толькі з польскамоўных твораў, хаця першапачаткова аўтар, па прыкладзе В. Дуніна-Марцінкевіча, збіраўся ўключыць у яго і беларускія. Бадай, агульнавядомы факт, што Сыракомля адгаварыў свайго вучня і таварыша, прапанаваўшы падрыхтаваць асобны сумесны зборнік беларускай паэзіі. Аднак гэтай цудоўнай задуме так і не суджана было спраўдзіцца. Хаця сучасныя даследчыкі і канстатуюць, што "ніякіх звестак пра гэта не захавалася", але, безумоўна, былі тут і прычыны асабістага характару. У тых датклівых умовах, у якіх апынуўся паэт у 1857 і 1858 гадах, яму было не да рэалізацыі свайго смелага выдавецкага плана, які не мог прынесці дывідэндаў. А ў 1859 годзе ў Паўночна-Заходнім краі пачала дзейнічаць пастанова аб забароне друкаваць беларускія творы лацінскім шрыфтам. І з таго часу Сыракомля, улюбёнец патрыятычна настроенай моладзі, не мог сабе дазволіць раскошу легальна, а гэта значыць кірыліцай, надрукаваць свае беларускія вершы.

Гелена ж яшчэ паўтара года выступала на кракаўскай сцэне, дзе адшукала шмат прыхільнікаў свайго таленту і прыгажосці. І толькі ўвайшоўшы ў шэрагі канспіратараў, у 1860 годзе пакінула сцэну і перасялілася ў Варшаву. Як агент і кур'ер Нацыянальнага ўрада яна брала чынны ўдзел у паўстанні 1863 года. У яе варшаўскай кватэры хаваўся апошні дыктатар польскіх інсургентаў, наш зямляк Рамуальд Траўгут. На наступны дзень пасля яго арышту трапіла за краты і яго апякунка і памочніца. У вязніцы Гелена трымалася мужна. У ліпені 1864 года ёй вынеслі прысуд — 8 гадоў катаржных работ у Сібіры. Там яна працавала на саляных промыслах. Пасля амністый 1866 і 1867 гадоў няўрымслівая жанчына пераехала ў Іркуцк, дзе зноў спрабавала выступаць у тэатры. Але беспаспяхова. Там жа яна ў другі раз выйшла замуж за выгнанніка з Магілёўшчыны Пюро-Дэмбінскага, на радзіме якога і жыла пасля ссылкі. А пасля смерці мужа яна перасялілася ў Віцебск.

Жыццёвыя катаклізмы Гелены Маеўскай, запал пачуццяў, якім яна аддавалася без астатку, яе творчая натура — вось атрыбуты неардынарнай асобы, надзеленай, па меркаванні Уладзіслава Каратынскага, "незвычайным розумам і сілай волі".

**Ігар ЗАПРУДСКІ**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"



## Сустрэча музыкі і вершаў

6 верасня Інстытут Гётэ і Белдзяржфілармонія ладзяць у зале камернай музыкі Белдзяржфілармоніі (касцёл св. Роха) літаратурна-музычную імпрэзу "І вынайшаў я крылы — вось яны...". Бяруць удзел нямецкі кампазітар Ёган Готлаб Врохам і слынны беларускі паэт Алесь Разанаў. Гучаць вершы Алеся Разанава ў арыгінале і ў перакладзе на нямецкую мову ў суправаджэнні музыкі, напісанай на гэтыя вершы.

**Пачатак а 19 гадзіне.**

**Запрашэнні на імпрэзу можна атрымаць у Інстытуце Гётэ па адрасе:**

**вул. Фрунзе, 5,**

**Дом літаратара, п. 105.**

ПАРОДЫІ

Павел САКОВІЧ

## *А што ў асадку?*

Да ўморы гутаркі вядзем,\
Цыганскі дым плыве пад бэлькі.\
О, колькі вершаў і паэм\
На дно звалілася бутэлькі!

**Мікола МЯТЛІЦКІ**

*Хоць я даўно ўжо "завязаў" —*\
*Не п'ю віна, тым больш гарэлкі, —*\
*Аднак бутэлькі ўсе не здаў:*\
*На дне ж іх вершы, што пісаў*\
*з пахмелкі!*

*Я шмат з бутэлек гэтых зліў.*\
*Вунь з той, зялёнай, ад "шампані",*\
*Паэму, помню, нацадзіў,*\
*Дый болей мог бы, пры старанні.*

*І ўсё ж прызнацца мушу, што*\
*З-пад "белай" посуд самы лепшы:*\
*"Крышталь" з магічнай лічбай "100"*\
*Мне падарыў аж сотню вершаў!*

*Бутэлькам тым расце цана,*\
*Адно баюся — каб не спёрлі.*\
*Я ўсё з іх вытрасу, да дна,*\
*Схапіўшы, як раней, за горла!*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва — | 284-8462 |
| фота-карэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 284-8462 |
| Тэл./факс — | 284-7965 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556

Нумар падпісаны ў друк 30.8.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 4986

Д 1 2 . 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12